№15-16
(63-64)
Жнівень 2000

# Права на волю

Бюлетэнь Праваабарончага Цэнтру "Вясна"




Фота "ПнВ"

Прэс-канферэнцыя лідэраў буйнейшых апазіцыйных партыяў Беларусі. Мінск, 15 жніўня 2000 г.

# Гэтае грознае слова "БАЙКОТ"

- *Буйнейшыя беларускія апазіцыйныя партыі ня возьмуць удзелу ў "парламенцкіх выбарах", прызначаных на 15 кастрычніка 2000 году*
- *АБСЕ не дашле на Беларусь сваіх назіральнікаў, а толькі тэхнічную групу*
- *Чарговы, трэці, "Марш Свабоды" адбудзецца 1 кастрычніка 2000 году*

У жніўні стартаваў фарс, які Лукашэнка хацеў бы назваць парламенцкімі выбарамі. Хацеў бы, але ці ўдасца? Буйнейшыя беларускія апазіцыйныя партыі — Беларускі народны фронт, Аб'яднаная грамадзянская партыя, Беларуская сацыял-дэмакратычная грамада, Жаночая партыя "Надзея", Канфедэрацыя свабодных прафсаюзаў — удзельнічаць у выбарах ня будуць. Пра гэта лідэры партыяў Вінцук Вячорка, Анатоль Лябедзька, Станіслаў Шушкевіч, Валянціна Палевікова і Віктар Івашкевіч заявілі на прэс-канферэнцыі, што прайшла ў Мінску 15 жніўня г.г. Яны заклікалі іншыя апазіцыйныя партыі і рухі падтрымаць байкот лукашэнкаўскіх выбараў.

Афіцыйна пацьвердзілі свой удзел у выбарах толькі лаяльныя Лукашэнку камуністы ды некаторыя вядомыя палітыкі, якіх рэжым спачатку асудзіў на розныя тэрміны з адтэрміноўкай прысуду (што не дае права, паводле лукашэнкаўскага выбарчага "закону", удзельнічаць у выбарах), а потым літасьціва перанёс канчатковае вынясеньне прысуду на больш позьні тэрмін, чым фактычна даў шанец паспрабаваць стаць дэпутатамі. "Ласкай" скарысталіся асуджаныя рэжымам былы прэм'ер-міністр Міхаіл Чыгір (тры гады зьняволеньня з адтэрміноўкаю на тры гады), старшыня БСДП(НГ) Мікола Статкевіч (два гады зьняволеньня з адтэрміноўкаю на два гады), журналіст і праваабаронца, дэпутат ВС 13-га скліканьня Валеры Шчукін (адзін год зьняволеньня з адтэрміноўкаю на адзін год)... Усяго ж па падліках Цэнтральнай выбарчай камісіі з зарэгістраваных 475 ініцыятыўных групаў кандыдатаў у дэпутаты каля 60 можна лічыць прадстаўнікамі апазіцыі.

М.Чыгір, М.Статкевіч, В.Шчукін і іншыя выдатна разумелі, што будзе азначаць зьяўленьне іх прозьвішчаў сярод кандыдатаў у дэпутаты. Апелюючы менавіта імі рэжым спрабуе дабіцца міжнароднага прызнаньня выбараў. Але пра якое прызнаньне можа ісьці гаворка, калі ні адна з чатырох умоваў, сфармуляваных АБСЕ дзеля правядзеньня законных выбараў на Беларусі ўладамі не была выкананая: апазіцыі не забясьпечаны доступ да дзяржаўных сродкаў масавай інфармацыі; паўнамоцтвы парламенту, які будзе абраны, не пашыраныя; выбарчы кодэкс ня зьменены ў бок дэмакратычнасьці; і, нарэшце, палітычныя рэпрэсіі супраць іншадумцаў не перапыненыя... Зьвяртаючы ўвагу на гэта, М.Чыгір у інтэрв'ю газеце "Наша Свабода", сказаў: "паколькі ўмовы ня выкананыя, назіральнікі тут не павінны быць, а значыць, гэтыя выбары не павінны быць прызнаныя, нягледзячы на тое, што ў іх удзельнічаюць Чыгір, Статкевіч і іншыя". М.Статкевіч са свайго боку сьцьвярджае, што ўдзел у выбарах асобных членаў БСДГ(НГ) — "гэта ня ўдзел партыі, і ён не

(Працяг на стар. 2)

## Хроніка

*3 жніўня* на Цэнтральнай плошчы г.Барысава (Мінская вобл.) адбыўся несанкцыянаваны пікет, які прайшоў пад лозунгамі: "Далоў Бургуна, Трусава, Кішчанку!" і "Нам патрэбная гарачая вада!". Удзельнікі акцыі патрабавалі зьмены мясцовага кіраўніцтва (Бургун – мэр гораду, Трусаў – намесьнік мэра, Кішчанка – намесьнік дырэктара жылкамунгасу). Пікет цягнуўся ўсяго дзесяць хвілінаў – з 11 да 11.10, потым пікетоўшчыкаў затрымалі і павезьлі ў суд. Судзьдзя Алена Бачышча вынесла ўдзельнікам пікету наступныя пакараньні: *Абрамовічу Аляксандру* – 15 сутак адміністратыўнага арышту (прысумавалася пакараньне за арганізацыю папярэдняга несанкцыянаванага пікету супраць карупцыі "Барысаў – расаднік карупцыі"); *Леднiку Ігару* – 5 сутак адміністратыўнага арышту (за арганізацыю антыкарупцыйнага пікету); *Ясюк Алесі* – штраф у памеры 150 мінімальных заробкаў; *Грэбневай Ларысе* – папярэджаньне; *Сакалову Сяргею* – папярэджаньне. Асуджаныя А.Абрамовіч і І.Леднік абвясьцілі галадоўку.

*5 жніўня* ў Мінску, у пад'езьдзе свайго дому быў забіты лідэр беларускай філіі прафашысцкай арганізацыі Рускае нацыянальнае адзінства (РНЕ) Глеб Самойлаў. Сьледчыя выключаюць версію пра палітычныя матывы забойства лідэра РНЕ і лічаць, што, хутчэй за ўсё, прычынай сьмерці Г.Самойлава сталі ўнутрыарганізацыйныя "разборкі". На пахаваньне Г.Самойлава сабралася некалькі дзясяткаў ягоных паплечнікаў у чорнай уніформе. Труну накрываў сьцяг з эмблемай, што імітуе свастыку.

(Працяг на стар. 14-15)

# Беларускі сьвятар — за кратамі

## Айцец Іван Спасюк асуджаны на 5 сутак адміністратыўнага арышту па абвінавачаньні ў непадпарадкаваньні супрацоўнікам міліцыі

У пасёлку Берастaвіца (Гродзенская вобласьць) 2 жніўня адбыўся суд над сьвятаром Беларускай народнай праваслаўнай царквы айцом Іванам Спасюком. Гэты суд стаўся вынікам папярэдніх падзеяў, якія пачалі разгортвацца яшчэ 28 ліпеня. У той дзень у царкву, дзе праводзіў службу айцец Іван Спасюк, уварваліся міліцыянты, якія накінуліся на сьвятара і закавалі яго ў кайданкі. Прычынай гэтых дзеяньняў прадстаўнікоў улады стала тое, што айцец імкнуўся зарэгістраваць у пасёлку прыход Беларускай народнай праваслаўнай царквы, а ня Рускай праваслаўнай з маскоўскім патрыярхам на чале. Далей падзеі разгортваліся непрадказальна. Айцу Івану Спасюку ўдалося вырвацца ад міліцыянтаў (у кайданках), заскочыць у сваю машыну і ўцячы, забраўшы з сабою трох сваіх дзяцей. Айцец накіраваўся ў Гродна да польскага Генеральнага консульства, дзе зьбіраўся папрасіць абароны ад перасьледу і дапамогі ў рэгістрацыі ў пасёлку Пагранічным прыходу Беларускай народнай праваслаўнай царквы.

У консульстве РП яго не прынялі, затое сюды ў хуткім часе пад'ехала група крымінальнага вышуку, каб захапіць сьвятара і адвезьці ў аддзяленьне міліцыі. Зрабіць гэта ім не ўдалося, бо каля консульства знаходзіліся журналісты і праваабаронцы. Але ім удалося адабраць пашпарт у айца Івана Спасюка.

1 жніўня Іван Спасюк падаў заяву ў Гродзенскую абласную пракуратуру, дзе распавёў пра факты перасьледу, якія мелі месца адносна яго з боку супрацоўнікаў праваахоўных органаў. Высьветлілася, што факты гэтыя нідзе не былі зафіксаваныя, у тым ліку і наконт ужываньня кайданкоў. Наступным крокам была заява ў Ленінскую пракуратуру г.Гродна з мэтай вярнуць пашпарт. Калі айцец у другой палове дня прыйшоў па пашпарт, яго разам з дзецьмі пасадзілі ў мікрааўтобус і павезьлі ў Берастaвіцу ў раённы суд.

Судовае паседжаньне было кароткім, а прысуд жорсткім – 5 сутак адміністратыўнага арышту, якія айцец Іван Спасюк быў абавязаны адразу ж адбываць. Дзяцей яго міліцыянты адвезьлі ў райбальніцу, куды ў хуткім часе па іх прыехала матушка. А сам І.Спасюк быў дастаўлены за краты.

**Інфармацыйны аддзел ПЦ "Вясна".**

# Гэтае грознае слова "Байкот"

*(Пачатак на стар. 1)*

вядзе да легітымізацыі палаты".

Канчатковае рашэньне дасылаць альбо не групу назіральнікаў на выбары ў Беларусь міжнародная супольнасьць павінна была прыняць 30-31 жніўня на 3-й тэхнічнай канферэнцыі АБСЕ ў Вене. Напярэдадні гэтай падзеі А.Лукашэнка накіраваў сьпецыяльнае пасланьне Генеральнаму сакратару Савету Еўрапейскага саюзу Хаўеру Салане, а таксама старшыні АБСЕ, міністру замежных справаў Аўстрыі Б.Ф.Вальднер. У пасланьні А.Лукашэнка абяцаў, што ў склад Цэнтральнай выбарчай камісіі з правам дарадчага голасу будуць уведзеныя прадстаўнікі палітычных партыяў, якія вылучаць сваіх кандыдатаў у дэпутаты, а таксама, што ўсе дэпутаты атрымаюць эфірны час на дзяржаўным тэлебачаньні. Ёсьць там і шэраг іншых "гарантыяў" і "абяцаньняў", падчас чытаньня якіх паўстае пытаньне: а што перашкаджае А.Лукашэнку ўвесьці ўсе гэтыя "зьмены" (скажам, даць доступ апазіцыі да дзяржаўных СМІ) ужо цяпер, не чакаючы прыняцьця АБСЕ рашэньня аб накіраваньні сваіх назіральнікаў у Беларусь? Нішто... А гэта сьведчыць, што выконваць гэтыя "абяцаньні" Лукашэнка не зьбіраўся. Яму важнае толькі адно: дабіцца ўдзелу міжнародных назіральнікаў дзеля легітымізацыі новага парламенту, а значыць, і рэжыму ў цэлым. Беларускія ўлады накіравалі ў Вену прадстаўнічую дэлегацыю на чале з намесьнікам міністра замежных справаў краіны С.Мартынавым, а таксама скарысталіся падтрымкай Расіі (міністр замежных справаў Расіі І.Іваноў накіраваў у АБСЕ свой ліст з просьбай паспрыяць "Беларусі") і выканаўчых органаў СНД (удзел прадстаўнікоў СНД у канферэнцыі ўвогуле не прадбачыўся і зьдзівіў, і вытлумачыць яго можна толькі тым, што на гэтым настойваў сьпікер расійскай Думы Г.Селязьнёў). Такім чынам Расія адназначна выказала сваю падтрымку нелегітымнаму Лукашэнку. Беларускую апазіцыю на канферэнцыі прадстаўлялі толькі Вінцук Вячорка і Анатоль Лябедзька.

Рашэньне міжнародныя структуры прынялі неадназначнае. Яго цяжка назваць кампрамісным, але... Мяркуйце самі: у Беларусь будзе дасланая тэхнічная камісія БДІПЧ (Бюро па дэмакратычных інстытутах і правах чалавека), якая будзе знаходзіцца ў краіне толькі падчас правядзеньня выбарчай кампаніі і на момант правядзеньня галасаваньня на выбарчых участках не застанецца. Гэта прынцыпова важна. Бо ва ўсім сьвеце фактам удзелу міжнародных назіральнікаў у выбарах лічыцца менавіта непасрэднае назіраньне за самім працэсам галасаваньня.

Эксьпертная група БДІПЧ будзе працаваць на Беларусі на працягу чатырох тыдняў — менавіта столькі будзе доўжыцца выбарчая кампанія — і фіксаваць парушэньні, што будуць рабіцца ўладамі адносна незалежных кандыдатаў, і толькі потым, пасьля заканчэньня выбараў, будзе прынятае канчатковае рашэньне аб іх прызнаньні альбо не прызнаньні. Еўрапейскія структуры, такім чынам, пакідаюць беларускім уладам магчымасьць даказаць, што іх заявы пра справядлівыя выбары, пра стварэньне роўных магчымасьцяў для ўсіх кандыдатаў у дэпутаты ёсьць ня проста пустыя абяцаньні. І гэта дае дадатковыя шанцы сапраўды дэмакратычным кандыдатам.

Сярод партыяў, якія адныя з першых прынялі рашэньне ўдзельнічаць у выбарах у лукашэнкаўскі парламент, была Ліберальна-дэмакратычная партыя, якая здаўна вызначалася найперш сваёй прагай дарвацца да ўлады. Яе кандыдаты вылучаныя па ўсіх 110 выбарчых акругах, на працу ў акружныя выбарчыя камісіі накіравана 72 прадстаўнікі гэтай партыі. 30 жніўня вышэйшая рада ЛДП выступіла з заявай, у якой пералічваюцца факты парушэньняў выканаўчымі ўладамі на месцах і акружнымі выбарчымі камісіямі Выбарчага кодэксу РБ. Вышэйшы савет ЛДП "з вялікім жалем канстатуе, што ў цяперашні час няма пакуль ніякіх прыкметаў, што ўлада вырашыла праводзіць чэсныя дэмакратычныя выбары". Старшыня ЛДП С.Гайдукевіч заявіў, што здыме ўсіх кандыдатаў, калі выбарчыя камісіі адмовяцца зарэгістраваць хоць бы аднаго іх кандыдата. Выпадкі адмаўленьня ў рэгістрацыі сябрам ЛДП ужо ёсьць у Гомельскай і Гродзенскай абласьцях. І гэта, паўторымся, адносна лаяльнай да рэжыму партыі. А што казаць тады пра справядлівасьць "выбарчай кампаніі" адносна 60 сапраўды незалежных дэпутатаў, якія хацелі таго альбо не хацелі, але падыгралі ўладам...

Такім чынам, паспрабуем зрабіць некаторыя высновы. Паводле таго, як пачалася і ідзе выбарчая кампанія ў Беларусі і як улады ня толькі не сьпяшаюцца выконваць свае абяцаньні, а стараюцца перакрыць магчымасьць удзелу ў выбарах ня ўласна незалежным, апазіцыйным кандыдатам, а нават проста прадстаўнікам няўладных структураў, усё зноў скончыцца тым, што ў Беларусі пройдуць выбары бяз права выбару. Выйграць у такіх выбарах можа толькі адзін чалавек — А.Лукашэнка. А народ зноў застанецца каля таго самага разьбітага карыта: новы "парламент" таксама будзе "кішэнным", як і цяперашні. Дык ці патрэбны тады краіне "парламент", які нічога ня зможа вырашаць, а дзяржавай па-ранейшаму аднаасобна будзе кіраваць нелегітымны прэзідэнт? І ці патрэбныя тады нам такія выбары?

**Андрэй НАЛІВА.**

# Віктар КАРНІЕНКА: "Разьвіцьцё "трэцяга сектару" блакуе дзяржава..."

***Сёньня многім відавочна, што беларускія ўлады не падтрымліваюць грамадзкую актыўнасьць сваіх грамадзянаў. Становяцца больш жорсткімі законы, якія рэгламентуюць дзейнасьць няўрадавых арганізацыяў. Такія агульнанацыянальныя кампаніі, як перарэгістрацыя арганізацыяў, яскрава дэманструюць жаданьне тых, хто знаходзіцца пры ўладзе, прыструніць найбольш непаслухмяных грамадзянаў, што выдзяляюцца з агульнага натоўпу, які называецца насельніцтвам. Атрымліваюць яны і ад дзяржаўных СМІ, якія падзялілі беларускі "трэці сектар" (так ва ўсім сьвеце прынята называць сістэму няўрадавых аб'яднаньняў) на "сваіх" і "чужых".***

***І ўсё ж, нягледзячы ні на што, многія грамадзкія аб'яднаньні працягваюць пасьпяхова і эфектыўна працаваць, умацоўваючы свой аўтарытэт. Адной з такіх структураў зьяўляецца Гомельскае абласное грамадзкае аб'яднаньне "Грамадзянскія ініцыятывы". Распавесьці пра яго працу, праблемы і перспектывы карэспандэнт "Права на волю" папрасіў старшыню аб'яднаньня Віктара Карніенку. Ягоная грамадзка-палітычная дзейнасьць пачалася ў Гомелі ў 1987-1988 гг. з працоўнага руху. У 1989 годзе быў абраны дэпутатам СССР, з пачатку існаваньня зьезду Народных дэпутатаў СССР уваходзіў у склад Міжрэгіянальнай дэпутацкай групы — першай легальнай апазіцыі ў заканадаўчых органах СССР. У 1991 годзе абраны дэпутатам Гомельскага гарадзкога савету. Пасьля роспуску Вярхоўнага Савету і зьнікненьня Савецкага Саюзу з гістарычнай і геаграфічнай мапы быў выбраны першым намесьнікам Гомельскага гарадзкога савету і на гэтай пасадзе працаваў да 1994 году, да выбараў першага прэзідэнта Беларусі. Напярэдадні выбараў у ліку іншых дэпутатаў зрабіў заяву, што калі на прэзідэнцкіх выбарах будзе абраны недэмакратычны кандыдат, падасьць у адстаўку. Калі быў абраны А.Лукашэнка, такая заява была пададзеная. Адстаўка В.Карніенкі адбылася ў прысутнасьці самога Лукашэнкі, калі той прыехаў на сесію Гомельскага гарадзкога савету. З 1994 году Віктар Карніенка стала працуе ў трэцім сектары.***

***— Калі і з якой мэтай ствараліся "Грамадзянскія ініцыятывы"?***

— З большасьцю заснавальнікаў "Грамадзянскіх ініцыятываў" мы былі знаёмыя яшчэ ў 89-90 гг. Гэта дастаткова розныя па ўзросьце, адукацыі, прафесіях і нават па палітычных перакананьнях людзі. Аднак ужо дзесяць гадоў шмат што нас аб'ядноўвае. Галоўнае, мы ніколі не чакалі, што нехта вырашыць нашыя праблемы, таму як маглі рабілі гэта самі. Не шукалі і не шукаем канфрантацыі з уладай, але і ад начальніцкіх крыкаў у нас ніколі ня трэсьліся паджылкі, таму што перакананыя: чыноўнік існуе дзеля народу, а не наадварот. Нашыя калегі ў сваіх мікрараёнах былі і застаюцца лідэрамі і добрымі прафесіяналамі на асноўным месцы працы.

У "Грамадзянскія ініцыятывы" увайшлі жыхары большай часткі раёнаў Гомельскай вобласьці і часьцей гэта былі не "адзіночкі", а людзі, за якімі стаялі арганізацыі. Нашае аб'яднаньне было зарэгістраванае ў 1996 годзе, але гэта быў толькі фармальны акт, бо і да гэтага мы рэалізоўвалі нямала сумесных праграмаў. Тады і зараз служым адной мэце: падтрымка любых ініцыятываў грамадзянаў, якія садзейнічаюць дэмакратызацыі грамадзтва, забесьпячэньню правоў чалавека, правядзеньню эканамічных рынкавых рэформаў і вырашэньню грамадзка значымых праблемаў у галіне навукі, культуры, экалогіі, а таксама разьвіцьцю незалежнай інфармацыйнай прасторы. На практыцы гэта азначае, што мы дапамагаем ствараць грамадзкія аб'яднаньні і аказваем ім тэхнічную, метадычную, кансультацыйную і іншую дапамогу, па магчымасьці шукаем партнёраў і спонсараў.




***— Чаму менавіта грамадзкія аб'яднаньні, а не палітычныя партыі зьяўляюцца сферай вашых інтарэсаў?***

— У мяне як у грамадзяніна ёсьць свае палітычныя перакананьні – я сябра Аб'яднанай грамадзянскай партыі. Сярод актывістаў "Грамадзянскіх ініцыятываў" ёсьць прадстаўнікі іншых дэмакратычных партыяў, але большасьць складаюць беспартыйныя. І палітычныя партыі, і грамадзкія аб'яднаньні зьяўляюцца важнейшымі складаемымі любога дэмакратычнага грамадзтва, але задачы ў іх розныя. Чые больш важныя – спрачацца ня варта. Магу толькі з упэўненасьцю сказаць, што нават па колькасьці няўрадавых аб'яднаньняў можна меркаваць пра ступень дэмакратычнасьці таго ці іншага грамадзтва. У памежнай Польшчы іх больш за 25 тысячаў, а ў Беларусі каля паўтары тысячы. У суседняй Чарнігаўскай вобласьці (Украіна) дзейнічае 310 такіх структураў, на Гомельшчыне – толькі каля 150. Загадчыца аддзелу па інфармаваньні насельніцтва і сувязях з грамадзкасьцю Гомельскага аблвыканкаму А.Кашавенка ў адной з тэлеперадачаў гэтую лічбу назвала з захапленьнем, бо, на яе думку, гэта вялікія посьпехі. Я ж лічу, што такія паказчыкі пацьвярджаюць факт адсутнасьці ў Беларусі дэмакратыі і рэальнай свабоды ў грамадзянаў ствараць грамадзкія структуры.

***— Па логіцы, любая ўлада павінна абапірацца на актыўную частку грамадзтва. Калі я правільна зразумела, у Беларусі сама дзяржава перашкаджае рэалізацыі грамадзкіх ініцыятываў?***

— Вы правільна зразумелі. Я лічу, што ў нашай краіне "трэці сектар" сістэмна і мэтанакіравана зьнішчаецца. Дзеля гэтага выкарыстоўваюцца самыя розныя тэхналогіі – ад арганізацыі паклёпніцкіх кампаніяў у СМІ да заканадаўчай забароны праяўляць любую грамадзянскую ініцыятыву. Адна перарэгістрацыя аб'яднаньняў, якая ў народзе называецца "зачысткай" трэцяга сектару, чаго каштуе. Прывяду прыклады з сумнай практыкі адносінаў з уладамі нашага аб'яднаньня. Нас імкнуліся аштрафаваць за правядзеньне цалкам законнага мерапрыемства – чытацкай канферэнцыі. Ініцыятарамі гэтага дзеяньня сталі высокапастаўленыя міліцэйскія чыны А.Гаркоў, А.Салаўёў, І.Смолікаў. Нават беларускі суд быў вымушаны прызнаць глупства абвінавачаньняў, якія прад'яўляліся прадстаўнікамі аховы правапарадку. Той жа Гаркоў з групай міліцыянтаў бяз санкцыі пракурора праводзіў вобыск у

(Працяг на стар. 11)

# "Зачыстка" інфармацыйнай прасторы

***Беларускія ўлады рыхтуюць да выбараў і адпаведнае інфармацыйнае забесьпячэньне: чым менш будзе недзяржаўных выданьняў, тым цяжэй будзе незалежным кандыдатам данесьці да выбаршчыкаў сваю праграму і праўду пра эканамічную і палітычную сітуацыю ў краіне***

***21 жніўня старшыня Дзяржаўнага камітэту РБ па друку Міхаіл Падгайны разаслаў у рэдакцыі газетаў ды часопісаў ліст, у якім нагадаў, што ў адпаведнасьці з дэкрэтам А.Лукашэнкі ад 16 сакавіка 1999 году № 11 «Аб упарадкаваньні дзяржаўнай рэгістрацыі і ліквідацыі (спыненьня дзейнасьці) суб'ектаў гаспадараньня» неабходна да 1 студзеня 2001 году зарэгістраваць у мясцовым выканаўчым камітэце рэдакцыю ў якасьці камерцыйнай або некамерцыйнай юрыдычнай асобы ў любой арганізацыйна-прававой форме. Калі ў якасьці рэдакцыі выступае заснавальнік-грамадзянін, дык юрыдычная асоба не ствараецца: заснавальнік павінен быць індывідуальным прадпрымальнікам з правам выпуску перыядычнага выданьня...***




Такім чынам, думаецца, напярэдадні выбараў у лукашэнкаўскі парламент вырашана было нагадаць пра сапраўднае. месца "вольнай" прэсы на Беларусі і даць зразумець, што той самы "ланцуг свабоды", на якім утрымліваецца незалежная прэса, становіцца яшчэ карацейшым... Увогуле, цяжка сёньня беларускую незалежную прэсу назваць незалежнай ад уладаў у поўным сэнсе гэтага слова. Бо лукашэнкаўскі закон аб друку стварае такія ўмовы рэгістрацыі і перарэгістрацыі выданьня, прайсьці праз якія дадзена ня кожнаму. І асабліва ў правінцыі. Дэкрэт жа №11 заснаваны нават не на гэтым законе і ад пачатку мае пазазаконны характар, бо жорстка абмяжоўвае канстытуцыйныя правы і свабоды грамадзянаў Беларусі. Вядомы юрыст Міхаіл Пастухоў, каментуючы гэты ліст старшыні Дзяржкамдруку, адзначыў: як толькі газеты стануць суб'ектамі гаспадараньня, яны адразу патрапяць пад асабліва строгі кантроль рэгіструючых і падатковых дзяржаўных органаў з усімі выцякаючымі адсюль наступствамі...

Новы наступ на беларускую незалежную прэсу невыпадкова супаў з пачаткам выбарчай кампаніі. Бо на Беларусі толькі друк сёньня валодае адноснай свабодай ад уладаў. Незалежнага тэлебачаньня на Беларусі няма. А з прызначэньнем на пасаду старшыні Нацыянальнай тэлерадыёкампаніі лідэра Партыі камуністаў беларускай Віктара Чыкіна (дарэчы, партыі, якая актыўна ўдзельнічае ў выбарах) і ўвогуле страчаная ўсялякая надзея, што на тэлебачаньні дадуць слова апазіцыйным кандыдатам у дэпутаты. Незалежныя FM-радыёстанцыі на Беларусі ёсьць. Але пасьля таго, як была гвалтоўна зачыненая "па тэхнічных прычынах" адзіная беларускамоўная радыёстанцыя "101, 2", усе яны пачалі прытрымлівацца "нейтралітэту", а ў "палітыку" і ўвогуле не ўлазіць.

І тым ня менш з пачаткам выбарчай кампаніі ўлады зьвярнулі ўвагу і на гэтыя радыёстанцыі. 31 жніўня кіраўнікоў шасьці мінскіх FM-станцыяў: "Альфа-Радыё", "Бі-эй", "Радыё РОКС", "Стыль", "Мір", "Сталіца" (дарэчы, апошнія тры па сваёй сутнасьці зьяўляюцца дзяржаўнымі і пралукашэнкаўскімі) выклікаў да сябе на сустрэчу галоўны беларускі ідэолаг, віцэ-прэм'ер Уладзімір Замяталін. Размова ішла, зразумела, пра тое, як сябе паводзіць "у перыяд выбарчай кампаніі". Кіраўнікам радыёстанцыяў У.Замяталін адкрыта сказаў: "Мы лічым, што на Беларусі на сёньняшні дзень няма і ня можа быць незалежных СМІ, а ўсе СМІ, якія выдаюцца ці працуюць на тэрыторыі РБ — ёсьць дзяржаўныя СМІ..." І далей: "калі нейкі СМІ знаходзіцца і працуе на тэрыторыі дзяржавы, дык ён не павінен праводзіць антынародную палітыку". А антынародным У.Замяталін лічыць усё, што не адпавядае "афіцыйнаму пункту погляду"... Па вялікім рахунку нічога новага У.Замяталін не сказаў, ён проста яшчэ раз агучыў тое, што не перастае паўтараць А.Лукашэнка.

Перадвыбарчая агітацыя, паводле беларускага заканадаўства, павінна пачацца з 15 верасьня. Беларускае тэлебачаньне ўжо рыхтуецца да гэтага. Аб'яўлена, што ў "палітычных дэбатах" змогуць узяць удзел лідэры ўсіх партыяў, якія афіцыйна ўдзельнічаюць у выбарах. Але... "жывога" эфіру ня будзе. Усе перадачы будуць ісьці ў запісе. А значыць, падрэдагаваныя, падцэнзураныя, выхалашчаныя...

У незалежных кандыдатаў, такім чынам, застаецца адзіная надзея данесьці сваю перадвыбарную платформу да выбаршчыкаў: свабодны друк. Але. І Тут "але". У беларускай правінцыі, нават у большасьці абласных цэнтраў незалежнай прэсы як такой не існуе. І ўсе спробы незалежных журналістаў зарэгістраваць сваё выданьне натыкаюцца на "неразуменьне" уладаў. Вось толькі два прыклады. Ужо тройчы па розных прычынах атрымаў адмову ў рэгістрацыі газеты "Правінцыя" ў Пінску журналіст Віктар Ярашук. На пытаньне "чаму?" (бо былі выкарыстаныя ўсе мажлівыя варыянты рэгістрацыі) гарадзкія ўлады ўрэшце рэшт адкрыта патлумачылі журналісту, што дазвол на выпуск газеты ён атрымае толькі пасьля выбараў... У Гродна таксама нічым скончыліся ўсе спробы зарэгістраваць гарадзкую газету "Рэпарцёр". Пасьля трох адмоваў журналіст Анджэй Пісальнік напісаў у гарвыканкам заяўку з просьбай прадаставіць яму памяшканьне і ўрача дзеля бестэрміновай галадоўкі пратэсту. Улады спакойна адказалі на гэта 19 жніўня гг., што ў іх "няма прычынаў дзеля прадастаўленьня памяшканьня і ўрача дзеля галадоўкі"... Рэдакцыя так і не змагла атрымаць юрыдычны адрас, каб быць зарэгістраванай, і калектыў вымушаны будзе здацца...

Што ж, беларускія ўлады застаюцца вернымі сваім прынцыпам: самая эфектыўная перадвыбарная тэхналогія — гэта забарона свабоднага слова і жорсткае адсочваньне ўсёй інфармацыі. Каб ніхто з "незалежнікаў" не забываўся, што выбары кампанія часовая, а жыць і працаваць у гэтай дзяржаве трэба будзе і пасьля...

**А.ЧАС.**

# Беларусь не зрабіла нічога дзеля правядзеньня дэмакратычных выбараў

***31 жніўня ў Вене перад Пастаяннай Радай АБСЕ выступіў з заявай па Беларусі амерыканскі амбасадар Дэвід ДЖОНСАН. Прапануем увазе чытачоў "ПВ" тэкст ягонага выступленьня, распаўсюджаны прэс-цэнтрам "Хартыі-97".***

"... Перш за ўсё дазвольце мне падзякаваць амбасадару Віку – ня толькі за ягоную справаздачу і сёньняшні каментар, але і за тую нялёгкую працу, якую на працягу некалькіх, а менавіта двух гадоў выконвалі ад нашага імя ён сам, ягоная каманда, а таксама прэзідэнт Севярын са сваёй камандай у межах праекту па аказаньні садзеяньня разьвіцьцю дэмакратыі на Беларусі.

Іх жаданьне палепшыць сітуацыю з дэмакратыяй і правамі чалавека відавочнае. Пра гэта яскрава сьведчыць ня толькі тое, што яны прамовілі сёньня, але і праведзеная імі на працягу двух гадоў праца.

На жаль, урад Беларусі не прадэманстраваў аналагічнага ўзроўню зацікаўленасьці. На словах – так, безумоўна, асабліва за гэты апошні месяц. Аднак іх намеры і паводзіны сьведчаць пра адваротнае. Як і мае калегі за гэтым сталом, я толькі што атрымаў копію дакументу, над якім вы ўчора так узмоцнена працавалі. Мной не было атрымана ніякіх інструкцыяў з Вашынгтону наконт рэкамендацыяў тэхнічнай групы. Нягледзячы на гэта, нашыя погляды заўсёды заставаліся нязьменнымі ў гэтай сувязі, пра што цудоўна ведаюць усе, хто сабраўся за гэтым сталом. Беларусь жа не зрабіла нічога, што магло б істотна паўплываць на нашыя погляды. Беларускі ўрад ня здолеў выканаць мінімальных патрабаваньняў дзеля правядзеньня будучых выбараў, што ставіць пад сумніў неабходнасьць накіраваньня на Беларусь каманды назіральнікаў.

Як было адзначана тэхнічнай групай, пэўны прагрэс у задавальненьні чатырох патрабаваньняў быў усё ж дасягнуты. У той самы час гэты прагрэс відавочна недастатковы, каб было магчыма казаць пра выкананьне міжнародных умоваў. Такім чынам, была зробленая выснова пра некаторыя зьмены ў выбарчым заканадаўстве, што хаця і не зьяўляецца задавальняючым, апраўдвае тэхнічную ацэнку. На мой погляд, па-ранейшаму маюць месца быць супярэчнасьці паміж рэальнымі фактамі і зробленымі высновамі. Так, АБСЕ не было прапанаванае меню крытэрыяў. Тройка, што функцыянавала ад нашага імя, усталявала чатыры крытэрыі, згодна зь якімі неабходна разглядаць сур'ёзнасьць намераў беларускіх уладаў па правядзеньню свабодных дэмакратычных выбараў.

Тэхнічнай групай была зробленая выснова пра тое, што беларускія ўлады незадаволілі ўмоваў. Як адзначана ў справаздачах БДІПЧ і амбасадара Віка, па-ранейшаму маюцца істотныя праблемы ў сувязі з выбарчым заканадаўствам. Новаўвядзеньні, што прапанаваныя беларускім урадам, носяць нязначны характар. Зыходзячы з таго, што да выбараў застаецца зусім мала часу і што яны будуць праведзеныя ў адпаведнасьці з існуючым заканадаўствам, апазіцыяй было прынятае рашэньне байкатаваць выбары, таксама з улікам таго факту, што на працягу доўгага часу яна падвяргалася дыскрымінацыі.

Няма магчымасьці праверыць выкананьне ўрадам Беларусі сваіх абавязацельстваў па свабодзе СМІ да сярэдзіны верасьня. Становішча рэчаў на сёньняшні дзень не абнадзейвае. Нават у тым выпадку, калі кандыдатам будзе дадзены пэўны эфірны час, апазіцыя, якая ўжо аб'явіла пра байкот выбараў, застанецца не пры справах. Такім чынам, сітуацыяй вакол выбарчага кодэксу, асноўныя страты ўжо нанесеныя.

На Беларусі па-ранейшаму пераважае атмасфера страху, пра якую тут так шмат казалася. Хто возьме сьмеласьць сказаць сем'ям бяз вестак зьніклых, тым, каго гоняць у турмы і цягнуць у суды, пра тое, што абяцанае ўладамі перамір'е — дастатковая падстава дзеля даверу?

Калі беларускія ўлады сапраўды настроеныя сур'ёзна, тады ім трэба выпусьціць на волю палітычных вязьняў Клімава, Кудзінава, Лявонава і іншых; спыніць палітычныя працэсы супраць сп. і сп-ні Чыгір, Шчукіна Статкевіча і астатніх; правесьці рэальнае расьсьледаваньне зьнікненьняў Ганчара, Захаранкі, Красоўскага і Завадзкага. Акрамя гэтага, беларускім уладам неабходна дазволіць свабоду сходаў і самавыказваньня.

Злучаныя Штаты гатовыя шукаць новыя шляхі для разьвіцьця дэмакратыі і павагі правоў чалавека на Беларусі. Аднак ініцыятыва павінная, у першую чаргу, зыходзіць ад ураду Беларусі, а не АБСЕ".

# Заключэньні і рэкамендацыі

## *Трэцяй тэхнічнай канферэнцыі АБСЕ па выбарах у Беларусі*

***Трэцяя тэхнічная канферэнцыя разгледзела ўмовы дзеля дэмакратычных парламенцкіх выбараў у Беларусі і даклады Ураду Беларусі, прадстаўнікоў Кансультацыйнай Рады і апазіцыйных партыяў. У кантэксьце гэтых выступаў і на аснове ацэнак КНГ АБСЕ, Парламенцкай тройкі і БДІПЧ АБСЕ былі прынятыя наступныя рэкамендацыі :***

1. Скаардынаваныя міжнародныя высілкі – у прыватнасьці КГН АБСЕ і Парламенцкай тройкі (Еўрапарламент і парламенцкія асамблеі Рады Еўропы і АБСЕ), Міжпарламенцкай асамблеі СНД, адпаведныя ініцыятывы Вярхоўнага прадстаўніка па агульнай зьнешняй палітыцы і палітыцы ў галіне бясьпекі Еўрапейскага саюзу, Дзейнага старшыні АБСЕ і асобныя візіты палітычных дырэктараў Еўрапейскага саюзу і АБСЕ – падкрэсьліваюць палітычную зацікаўленасьць у аказаньні садзеяньня Беларусі ў аб'яднаньні з еўрапейскімі дэмакратыямі.

2. Дасягнуты пэўны прагрэс па чатырох асноўных напрамках, што адносяцца да арганізацыі дэмакратычных выбараў і якія зьявіліся асноўнай тэмай міжнародных кансультацыяў. Аднак гэты прагрэс па-ранейшаму недастатковы для дасягненьня ўзгодненых міжнародных крытэрыяў.

3. Хаця прававыя рамкі дзеля правядзеньня выбараў былі палепшаныя, іншыя рэкамендацыі АБСЕ – доступ апазіцыі да СМІ, пашырэньне функцыяў парламенту, "перыяд міру", як гэта выкладзена ў Пазіцыйным дакуменце Тэхнічнай канферэнцыі ад 21 сакавіка 2000 году – да апошняга часу не былі зьмененыя настолькі, каб агульныя ўмовы сёньня маглі быць ацэненыя як задавальняючыя.

4. Але зьмены рамкавых умоваў парламенцкіх выбараў робяць магчымым накіраваньне ў Беларусь тэхнічнай місіі па ацэнцы, якая будзе арганізаваная і разгорнутая БДІПЧ у цесным супрацоўніцтве з КНГ.

5. Тэхнічная місія БДІПЧ па ацэнцы будзе падтрымліваць накіраваньне экспертаў па выбарах на перыяд каля 4 тыдняў.

6. Беручы пад увагу вопыт і павагу, якую набылі ў мінулым дзякуючы іх палітычнай уцягнутасьці ў працэс дэмакратызацыі Беларусі прадстаўнікі парламенцкіх асамблеяў АБСЕ і Рады Еўропы, а таксама Еўрапарламенту, Канферэнцыя прасіла іх працягнуць кансультацыйную і назіральніцкую працу ў сувязі з маючымі адбыцца парламенцкімі выбарамі. Прадстаўнікі парламенцкай тройкі таксама павінныя дзейнічаць у якасьці назіральнікаў у той ступені, якая дазволіць ім даць аб'ектыўную ацэнку выбарчага працэсу. Парламенцкая тройка будзе цесна каардынаваць сваю дзейнасьць з КНГ АБСЕ, БДІПЧ і мясцовымі назіральнікамі.

7. Канферэнцыя запрашае Парламенцкую тройку, БДІПЧ і КНГ АБСЕ ацаніць правядзеньне выбараў і наступныя падзеі, у прыватнасьці, што тычыцца функцыяў парламенту, павагі правоў чалавека і ўмацаваньня вяршэнства закону.

8. Прысутнасьць парламенцкай тройкі і тэхнічнай місіі БДІПЧ па ацэнцы падкрэсьлівае тую палітычную вагу, якую Еўропа надае разьвіцьцю і кансалідацыі дэмакратыі на Беларусі. Іх прысутнасьць на Беларусі ў сувязі з парламенцкімі выбарамі не зьяўляецца актам міжнароднага прызнаньня дэмакратычнага характару і выніку парламенцкага выбарчага працэсу.

9. Гэтыя рэкамендацыі зробленыя зыходзячы з перакананьня, што канстытуцыйныя рознагалосьсі, якія ўзьніклі ў ліпені 1996 году, могуць быць пераадоленыя толькі мірным шляхам, праз перамовы і правядзеньне дэмакратычных выбараў.

10. Рэкамендацыі могуць быць перагледжаныя ў выпадку паляпшэньня альбо пагаршэньня сітуацыі на Беларусі.

11. Дэлегацыя СНД і Міжпарламенцкай асамблеі СНД не падтрымала пункт 8 гэтага дакументу.

*31 жніўня 2000 году.*

# "Мы ня ведаем, як абараніць сябе і сваю дачку..."

***Маладая беларуская сям'я ў роспачы: яе беспакаранна перасьледуюць антысеміты-неафашысты***

Недзе месяц таму, сьпяшаючыся на працу, я зайшла на станцыю метро "Акадэмія навук" і ўбачыла там чалавек пятнаццаць маладых людзей ў чорным адзеньні са свастыкамі на рукавах. Колькі хвілінаў назірала за імі, прапускаючы свае электрычкі. Прахожыя стараліся абысьці гэтую палохаючую кампанію, і толькі сталая жанчына наблізілася і, паказваючы на свастыку, закрычала: "Фашысты! І як толькі можна такое дазваляць! У нас, у Беларусі, у цэнтры гораду!" "Ідзіце, ідзіце, вы нічога не разумееце, гэта сьвяты сімвал," – адмахнуліся ад жанчыны.

Хлопцаў у чорных кашулях станавілася ўсё больш. Было відаць, што яны выбралі гэтую станцыю дзеля збору. Набраўшыся сьмеласьці, я выбрала аднаго з іх, да якога прыслухоўваліся астатнія, падышла і папрасіла адказаць на некалькі маіх пытаньняў. Хлопец адразу ж пагадзіўся і адышоў са мной убок. Ён спытаў, ці журналістка я. Так, адказала я, але яшчэ працую ў праваабарончым цэнтры. Перш за ўсё я пацікавілася, ці не падыходзіў да кампаніі, якая ўжо даволі доўга знаходзіцца на станцыі, хто-небудзь з дзяжурных супрацоўнікаў міліцыі, бо на маім вопыце працы ў праваабарончай арганізацыі шмат прыкладаў таго, як людзей прыцягвалі да адміністратыўнай адказнасьці, па-першае, за несанкцыянаваныя сходы, па-другое, за дзейнасьць у незарэгістраванай арганізацыі, а тут такое парушэньне – сход ва ўсіх на вачах у форме з незарэгістраванай сімволікай – ды яшчэ з якой! Аказалася, што дзяжурны па станцыі падышоў і папрасіў іх хутчэй зьехаць – і ўсё! Але толькі падчас маёй прысутнасьці на станцыі яны знаходзіліся там каля паўгадзіны. За гэты час мне распавялі, што яны едуць на "разборку" з міліцыяй, бо напярэдадні шэсьць сяброў арганізацыі былі затрыманыя і на іх была заведзеная крымінальная справа. Як прайшлі гэтыя "разборкі" – ня ведаю.

На станцыі метро знаходзілася ўжо чалавек трыццаць РНЕшнікаў, калі адзін з іх, высокі і сьветлавалосы мужчына гадоў трыццаці пяці аддаў загад – едзем, і чорная хмара голеных хлопцаў загрузілася ў вагон. Пасажыры расступіліся і з відавочнай насьцярогай разглядалі дзіўную кампанію са свастыкамі.

Так я ўпершыню сутыкнулася з неафашыстамі, але з іх дзейнасьцю, на жаль, прыходзіцца сутыкацца значна часьцей. Не прайшло і двух тыдняў пасьля той сустрэчы на "Акадэміі навук", як да нас у Праваабарончы Цэнтр "Вясна" зьвярнулася сям'я, якой на сабе даводзіцца выпрабоўваць антысеміцкую ідэалогію фашыствуючых малойцаў. Васіль і Кацярына Стальмаховічы гавораць, што ўжо ня ведалі, да каго зьвяртацца, каб абараніць сябе і сваю маленькую дачку.

Па словах Каці, у іх сям'і ніколі не было размоваў пра нацыянальнасьць мужа, і яна нават ня ведала, што маці мужа – яўрэйка. Аднак менавіта з-за гэтага спакой гэтай сям'і быў разбураны.

Усё пачалося з тэлефанаваньня, калі яны яшчэ жылі ў Каціных бацькоў. Спыталіся: "Вася?" – "Так. А з кім я размаўляю?" "Даведаесься, яўруга! Сустрэнемся!" Тыдні праз два, калі Каця ляжала ў шпіталі на захаваньні, Вася вяртаўся недзе ў сем-восем гадзінаў дахаты і зайшоў у пад'езд, за ім пайшлі двое высокіх хлопцаў, папрасілі цыгарэтаў, а потым пачалі зьбіваць. Васю ўдалося вырвацца і зьбегчы. Дома ён убачыў некалькі невялікіх сінякоў і неглыбокую нажавую рану – ці то хацелі парэзаць, ці то папалохаць. У той жа вечарператэлефанавалі і спыталі, як ён сябе адчувае.

Пасьля гэтага званкі сталі частымі. І кожны раз тыя ж словы і пагрозы. Некалькі разоў Вася прапаноўваў: "Давай сустрэнемся. Возьмем гарэлкі, пагаворым, вырашым праблему, калі яна ёсьць паміж намі. Што я вам зрабіў?". Але на гэта – ніякага адказу.

У хуткім часе Каця, Вася і іх дачушка, якая толькі нарадзілася, пераехалі ў сваю кватэру. Невядомыя працягвалі тэлефанаваць бацькам, зьняважліва гаварыць, але потым усё гэта заціхла. Месяцаў восем было спакойна, сталі спадзявацца, што ўсё скончылася. Але аказалася, што падонкі не зьбіраліся пакідаць сям'ю ў спакоі.

Вася расказвае: "Каця ляжала з дачкой у шпіталі. Я вяртаўся з працы і ў паштовай скрыні знайшоў аркуш паперы, на якім было напісана: "Сьмярдзючыя жыды, выбірайцеся ў свой Сьмярдзючы Ізраіль!!!" Я стаяў хвілінаў пяць, прачытаю – стаю і думаю, зноў прачытаю. Потым мнеператэлефанавалі: "Ну, што, — гавораць, — схаваўся? Убачымся!" Я ўжо нічога не казаў".

Каця дадае: "Працягваецца гэта ўжо даволі даўно. Муж спачатку ад мяне гэта хаваў, не хацеў непакоіць. Калі б гэта было зьвязана з нейкімі асабістымі непаразуменьнямі, за гэты час можна было б ужо зразумець. З бізьнесам усё нармальна, муж працуе з маім бацькам, ён нікому ня вінен. У гэтым плане нейкія разборкі выключаныя. Шмат разоў мы ўзгадвалі розныя жыцьцёвыя сітуацыі, думалі, каму маг-







*Тут пабылі неафашысты...*

лі дарогу перайсьці. Такога няма. Калі б патрабавалі грошай – было б зразумела, а тут нічога не патрабуюць, проста пагражаюць. Я ніколі ня чула, што ў нас у Беларусі ёсьць такія перасьледы. Заўсёды казала, што ў нас вельмі спакойная краіна. Мы былі задаволеныя, што нарадзіліся і жывём тут. І раптам – такое".

С апошнімі ілюзіямі разьвітацца сям'ю Стальмаховічаў прымусіла бяда, якая здарылася ў чэрвені гэтага году. Пад вечар Каця і Вася з дачкой вырашылі прагуляцца. На пустцы за домам да Васі падышлі трое да трыццаці гадоў у чорных кашулях з закасанымі рукавамі і пачалі біць. Каця ішла з каляскай наперадзе і адразу нічога не зразумела, адзінае, што добра памятае — Вася пачаў крычаць: "Уцякай!" Яна схапіла дачку на рукі і пабегла ў бок дому. Яе дагнаў адзін з нападаўшых і ўдарыў у сьпіну. Жанчына ўпала на дзіця, дзяўчынка моцна пабілася галавой.

"Адзін з іх быў сьветлы, вельмі высокі, хударлявы, — расказвае Вася, — бровы ў яго былі белыя, як сьнег, і дзікія вочы. Другі трохі ніжэй за мяне, ві-даць, старэйшы сярод іх. Ён быў нейкі ненармальны, калі мяне біў, у яго ажно сьліна цякла. Калі мяне білі, адзін трымаў, а другі біў з дзікай лютасьцю і злосьцю. Далей я памятаю, што прыбег мой сусед, плача Каця, дачка захлынаецца ў сьлязах – ёй быў толькі год і месяц".

У міліцыю яны тады не пайшлі – не да яе. Плакала дзіця, выклікалі "хуткую дапамогу" і паехалі ў шпіталь. Дзяўчынцы зрабілі рэнтген, аказалі неабходную дапамогу. Сказалі, што вельмі моцны ўдар, і калі ванітаваць ня будзе – значыць не сатрасеньне. Па словах мамы, цяпер дачка ўсяго пужаецца, стала вельмі асьцярожнай, ні да кога не ідзе на рукі. Баючыся паўтору нечага падобнага, дзяўчынку адвезьлі да Васевай маці. "Калі мы былі ўдвух – гэта не было так страшна, мы ўсё ж дарослыя, але калі зьявілася дзіця, зьявілася адказнасьць за яго – усё зьмянілася," – прызнаецца Каця.

Але на гэтым ня скончыліся непрыемнасьці. Позна вечарам 6 ліпеня Вася зайшоў у пад'езд і ўбачыў, што сьценка і іхнія дзьверы расьпісаныя фашыстамі. Ён зьвярнуўся да ўчастковага: "Што рабіць? Тэлефануюць, кідаюць у паштовую скрыню лісты, а цяпер вось дзьверы размалявалі". Участковы адказаў: "Што я лягу каля дзьвярэй? Ці мне ахову паставіць?" Але паглядзець дзьверы прыйшоў, пры гэтым даў зразумець, што ў яго і так шмат працы: "Ведаеш, у мяне ляжыць цэлая тэчка заяваў пра пашкоджаньне маёмасьці".

І перад сям'ёй паўстала праблема: да каго зьвяртацца па дапамогу? "Мы ня ведаем, як абараніць сябе і сваю дачку, — гаворыць Каця. – Спадзяемся, што гэта скончыцца само па сабе. Зьязджаць нікуды мы ня хочам, мы тут нарадзіліся, атрымалі адукацыю, у нас добрая праца. Што рабіць?"

Адказ адзін – патрабаваць абароны ад дзяржавы. Але ў нашай сёньняшняй дзяржаве ня толькі гэтая сям'я, але і шмат іншых людзей адчуваюць сябе безабароннымі. Пакуль улады будуць праяўляць талерантнасьць да неафашыстаў, гэта ня скончыцца.

**Тацяна РЭВЯКА.**



Працуе Дзьмітры ЗАВАДЗКІ.

# ПАКУЛЬ БЯЗ ВЕСТАК...

28 жніўня аператару расійскай тэлекампаніі ГРТ, які зьнік 7 ліпеня па дарозе ў мінскі аэрапорт, Дзмітрыю Завадзкаму споўнілася 28 гадоў. Бацькі і жонка Дзьмітрыя, як і родныя і блізкія Ю.Захаранкі, А.Ганчара, А.Красоўскага, што прапалі бяз вестак у мінулым годзе, спадзяюцца, што ён жывы і хутка будзе знойдзены. Вядома, што сьледзтва праводзіць работу з 5 падазронымі ў зьнікненьні Дз. Завадзкага. Некаторыя зь іх затрыманыя. Апошнім часам сьледзтвам актыўна распрацоўваецца версія, зьвязаная з камандзіроўкай Дзмітрыя ў Чачню і інтэрв'ю, дадзеным пра гэта ў канцы студзеня «Белорусской деловой газете». Дзмітрый у ім сказаў пра тое, што на баку чачэнскіх баевікоў ваююць наёмнікі з Беларусі і паведаміў, што нядаўна быў затрыманы адзін з іх, былы баец сьпецпадразьдзяленьня «Алмаз». Пасьля апублікаваньня інтэрв'ю Завадзкаму пачалі званіць невядомыя і дамаўляцца пра сустрэчу...

# ЗА ПАРУШЭНЬНЕ ТРЭБА АДКАЗВАЦЬ!

***Аляксандр Абрамовіч плануе павысіць суму кампенсацыі маральнай шкоды ў зыску да ўладаў г.Барысаву за ўтрыманьне яго ў камеры з хворымі на адкрытую форму сухотаў, бо адзін з ягоных сукамернікаў памёр...***

28 жніўня ў Крупскім раённым судзе пачаўся разгляд зыску Аляксандра Абрамовіча (старшыні Барысаўскай арганізацыі Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі "Народная Грамада") да Барысаўскага гарвыканкаму. А.Абрамовіч патрабуе кампенсацыі маральнай шкоды ў суме 700 тыс. беларускіх рублёў (прыкладна 700 даляраў ЗША). Суд адбудзецца ў Крупках, бо А.Абрамовіч у зыскавай заяве адзначыў, што не давярае суду г.Барысаву (справа тычыцца гарадзкіх уладаў). Нагадаем, што А.Абрамовіч быў незаконна прыцягнуты да адміністратыўнай адказнасьці (Вярхоўны суд адмяніў пастановы суда г.Барысаву) і атрымаў 35 сутак арышту за правядзеньне трох пікетаў. Ён утрымліваўся ў адной камеры з хворымі на адкрытую форму сухотаў (туберкулёзу), што катэгарычна забаронена дзеючым заканадаўствам. У ходзе судовага працэсу А.Абрамовіч плануе павысіць суму зыскавых патрабаваньняў, бо стала вядома, што адзін з яго былых сукамернікаў памёр ад сухотаў, а другі знаходзіцца на лячэньні. Наступнае паседжаньне суда па зыску А.Абрамовіча адбудзецца 4 верасьня.

# "ЛЯЧЫЦЬ МЯНЕ ТУТ НЕ ЗЬБІРАЮЦЦА"

***Хворыя на сухоты нагадваюць пра свае правы***

У Праваабарончы Цэнтр "Вясна" прыйшоў ліст ад хворага на сухоты Юрыя Уладзіміравіча Юрчыка, які з 26 красавіка гэтага году праходзіць лячэньне ў бальніцы, што знаходзіцца ў в. Волкавічы пад Мінскам. Ён паведамляе, што бальніца для хворых на сухоты не адпавядае свайму прызначэньню. На ягоную думку, бальніца створная не для лячэньня, а для ізаляцыі хворых людзей. Ю.Юрчык піша: "З хворымі дактары абыходзяцца як з жывымі нябожчыкамі. Мне доктар сказаў, што я "адсюль ня вылезу і лячыць ён мяне не зьбіраецца. А яшчэ ён сказаў: "Ты будзеш выпісаны толькі праз гараж!" Ён меў на ўвазе морг. У гэтай бальніцы няма моргу, замест яго выкарыстоўваецца гараж. А паміраюць людзі тут амаль кожны дзень..."

Юры Юрчык пытае: хто ж абароніць правы людзей, хворых на сухоты?

# Насуперак абыякавасьці ўладаў

## Урач Валеры Шумілаў, які першым у постчарнобыльскай Беларусі пачаў ставіць дыягназ хранічнай прамянёвай хваробы, або сіндрому хранічнай стомленасьці і імуннай дысфункцыі, звольнены з працы за парушэньне ўрачэбных інструкцыяў

***Афіцыйная статыстыка сьведчыць, што два з паловай мільёны беларусаў жывуць на тэрыторыі, забруджанай радыёнуклідамі. "Усеагульная млявасьць і абыякавасьць да жыцьця" — гэтыя словы гучаць сёньня не як саркастычны дыягназ стану беларускай нацыі, а на поўным сур'ёзе. Пастаяннае ўзьдзеяньне малых дозаў радыеактыўнага апраменьваньня вядзе якраз да паступовага пагаршэньня здароўя чалавека, да хранічнай стомленасьці. Валеры Шумілаў першым на Беларусі ва ўласнай урачэбнай практыцы пачаў устанаўліваць дыягназ хранічнай прамянёвай хваробы, або сіндрому хранічнай стомленасьці і імуннай дысфункцыі. За правамоцнасьць і дакладнасьць дыягназу гатовы зацята змагацца, бо парукай тут — уласнаручна сабраныя шматлікія зьвесткі аб узьдзеяньні альфа-часьцінак на здароўе людзей, шматгадовы аналіз выбуховай дэмаграфічнай сітуацыі на Беларусі. Чынавенства ад улады з абыякавай упартасьцю сьцьвярджае адваротнае: «хваробы Шумілава» не існуе, бо не існуе яе ў іхнім класіфікатары. Шумілаў не саступае, б'е трывогу, ледзь не ў адзіночку змагаецца з радыяцыйнай навалай. А дзяржава спрабуе зьнішчыць любыя праявы «ўрачэбнага вальнадумства»: Валеры Мікалаевіч звольнены з пасады ўчастковага ўрача мінскай паліклінікі №12 за «парушэньні працоўнай дысцыпліны»...***



Урач Валеры ШУМІЛАЎ.

***— Валеры Мікалаевіч, раскажыце крыху падрабязьней пра тое, як хранічная прамянёвая хвароба стала «хваробай Шумілава»...***

— Карацей, як я прыйшоў да высновы, што сіндром хранічнай стомленасці існуе і паступова нас забівае? Калі ласка!..

Нарадзіўся я ў пасьляваенным 1946-ым годзе. Нарадзіўся слабым і хворым. У 60-ыя ледзь ногі цягаў ад сухотаў. А час быў надзвычайны. Палёт Гагарына ў космас, палітычная адліга, нейкая узьнёсласьць і вера ў персьпектыву, у сапраўды лепшую будучыню. А здароўя не было. Пакуль ня вырашыў ратавацца сам. Падказалі паспрабаваць лячэбнае галаданьне. Дапамагло!

Потым прыйшла цвёрдая перакананасьць, што змагацца трэба ня толькі за сваё здароўе, але і за здароўе іншых, за наш дух, сумленьне, за нашую экалогію. Тады і ўнёс я ўласную папраўку ў трэці артыкул Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека. Да слоў: «кожны чалавек мае права на жыцьцё, на свабоду і на асабістую недатыкальнасьць» дадаў «...а таксама на экалагічную бясьпеку»...



*Здымак лёгкага ваўка, застрэленага ў Хойніцкім раёне. Чорныя прамяністыя плямы — α-выпраменьвальнікі.*

***— Але ў 60-ых, здаецца, пра радыяцыю на Беларусі ніхто і ня ведаў?***

— У тым і справа, што ня ведалі. Але гэта ня значыць, што яе не было. 60-ыя гады — гэта яшчэ і пачатак ядзернай эры, а дакладней, ядзернага псіхозу. Выпрабаваньні атамнай бомбы, самыя разнастайныя ядзерныя эксьперыменты і паклалі сумны пачатак тагачаснаму беларускаму Чарнобылю. Пераканаңы, што і «ўсемагутная» меліярацыя Палесься вялася так актыўна яшчэ і таму, каб хоць неяк прыхаваць вынікі радыяцыйнай забруджанасьці... Памятаю, у дзяцінстве бабруйская суседка Рая Родава, якая мела шыкоўныя валасы і пастаянна мыла іх дажджавой вадой, ніяк не магла ўцяміць, чаму валасы сталі выпадаць і яна пачала лысець.

***— Дык што, толькі пасьля красавіка 86-га мы даведаліся, ад чаго паміраем?***

— Менавіта так... Працаваў я ўрачом у Бабруйску, Мінску, зьбіраў навуковыя зьвесткі. Кабінету не было. А медыцынскай лабараторыяй — уся Беларусь. Сапраўдны навуковец — ня раб навукі, а творца, які здольны асэнсаваць асабістыя назіраньні, прывесьці іх у лагічную сістэму... На Беларусі два з паловай мільёны чалавек ужо набралі за жыцьцё 25 БЭР альбо 250 мілізівертаў. Такое ўтрыманьне радыёнуклідаў проста гарантуе непрадказальнае разьвіцьцё анкалагічных захворваньняў... Яшчэ ў 98-ым на парламенцкіх слуханьнях па чарнобыльскай праблеме я апісаў хранічную прамянёвую хваробу, заявіў, што калі б медыкі ставілі правільны дыягназ сваім суайчыньнікам, МАГАТЭ разарылася б, бо кампенсацыя патрэбна усёй беларускай нацыі... Але трэба адрозьніваць зьнешняе імгненнае апраменьваньне (якое было, напрыклад, у ліквідатараў-пажарнікаў) ад апраменьваньня ўнутранага, паступовага...

***— Пры якіх жа ўмовах узьнікае «хвароба Шумілава»?***

— Пры наяўнасьці так званай дыягнастычнай трыяды. Першая ўмова — анемічны сіндром, ці малакроўе. 140-130 грамаў гемаглабіну на літр крыві — норма. Калі гэты ўзровень падае да 110 грамаў і не ўзьнімаецца нават пры лячэньні — малакроўе відавочнае, узьдзеяньне цэзію, стронцыю і іншых радыёнуклідаў перашкаджае крываўтварэньню.

Другая ўмова — аберантнасьць лімфацытаў (белых клетак крыві), інакш кажучы, іх геннае парушэньне, якое вызначаецца сёньня без паза лішняга абсталяваньня звычайнымі лабарантамі ў звычайных паліклініках.

Трэцяя ўмова — падаўжэньне, расьцягваньне тэрмінаў іншых захворваньняў, скажам, грыпу. Арганізм з ім проста не пасьпявае спраўляцца... Дык вось, 25 БЭР, назапашаных за жыцьцё, плюс дыягнастычная трыяда, а ў выніку — хранічная прамянёвая хвароба, альбо сіндром стомленасьці...

***— Нездарма беларусаў пачалі называць людзьмі са стомленымі вачыма і спахмурнелымі тварамі...***

—Так!Тут дзейнічае і яшчэ адзін выключна важны фактар. «Хвароба Шумілава» ня толькі прамянёвая хвароба з непазьбежным сіндромам агульнай млявасьці і абыякавасьці да жыцьця. Гэта яшчэ і духоўнае зьбядненьне, выкліканае бязьмежным ужываньнем віна і гарэлкі...

***— Але на лабавым шкле «КАМАЗаў», што працавалі ў Чарнобылі летам 1986-га, нават шыльдачкі вывешваліся: «Асьцярожна, вадзіцель п'яны!» Хтосьці «кампетэнтны» зазначаў дый зазначае,***

***што алкаголь дапамагае вывесьці радыёнукліды з арганізму...***

— Дапамагае! Толькі не з арганізму, а з рук і ног — проста ў галаву, з «кішкі ў башку». У розум. Каб ня думалі, ня мроілі, не спадзяваліся. Выгадная для таталітарнай дзяржавы праалкагольная палітыка. Калі ўсе п'яныя, мо ніхто і не ўзгадае ніколі, што Беларусь не краіна, а плутоніевы запаведнік, што беларусы не нацыя,а спрадвечныя пацыенты, якіх ніхто не зьбіраецца лячыць.

***— Але ж вы лечыце!***

— Бо гэта мой найпершы ўрачэбны абавязак. Тое, што я імкнуся адкрыць людзям вочы, паказаць,чым і як яны хвараюць — заслуга ня надта вялікая. Галоўнае, я ведаю, як лячыць! У хуткім часе Беларускі дзяржаўны патэнтны камітэт выдасьць пасьведчаньне на мой метад вывядзеньня радыёнуклідаў з арганізму. Вельмі спадзяюся на гэта... Я вывучаю гэтую праблему больш за 10 гадоў. Вывучаю сур'ёзна і мэтанакіравана. Выратаваньне — у лячэбным галаданьні, якое накладваецца на каляндарную сістэму хрысьціянскіх пастоў. Трэба мяняць сістэму жыцьця,шукаць гармонію ў стасунках з прыродай. Эфект самы дзейсны! Не бесьсістэмнае галаданьне, а лячэбнае, шчыры хрысьціянскі пост. Распрацаваны дакладныя інструкцыі па разгрузачна-дыетычнай тэрапіі, круглагадовай сістэме сезоннага самааздараўленьня. У выніку зьніжаецца прамянёвая нагрузка, ствараюцца ўмовы для ўзнаўленьня малекулярна-клеткавых структураў, назіраецца супрацьракавы лячэбнапрафілактычны эфект. Па гэтых інструкцыях і працуе наш клуб «Самааздараўленьне». Яго дзейнасьць — не сакрэт, жадаючыя могуць далучыцца ў любы момант... Паўтараю: шчыры пост плюс ужываньне жывых натуральных сокаў, гародніны, садавіны, соевага малака.

У людзей, якіх напаткала агульнае вялікае гора, нацыянальная ідэя павінна быць адзінай: выжыць, каб жыць. Жыць насуперак абыякавасьці дзяржавы, насуперак здрадніцкім уладам.



Словы "Боль Чарнобылю — наш боль" ужо гучаць не сімвалічна...



Карыстаньне дазіметрам на Беларусі ня прызнак радыефобіі, а элементарная неабходнасьць, якую, дарэчы, разумеюць ня ўсе.

***— Вас беспадстаўна звольнілі з працы. Сем судовых паседжаньняў прайшлі для вас безвынікова. Вашая чалавечая і прафесійная годнасьць засталася неабароненай...***

— Ня варта перажываць за мяне! Я застаўся тым, кім быў. Для ўрачэбнай практыкі мне не патрэбныя кабінеты. Я па-ранейшаму лячу людзей і займаюся грамадзкай дзейнасьцю. Я адчуваю сваю неабходнасьць людзям і змагаюся на судовых паседжаньнях ня столькі з галоўным урачом 12-ай паліклінікі Сакалянскім (які звольніў мяне фармальна «за спазьненьні на працу»), колькі з сістэмай дзяржаўнага беззаконьня, зьмярцьвелай абыякавай сістэмай, якая здольная прапанаваць толькі адзіны аргумент у нашай спрэчцы: маўляў, Шумілаў звольнены за тое, што выходзіў за рамкі ўзаконенага пераліку захворваньняў і парушаў такім чынам інструкцыю. Лухта! Хто складаў гэтую інструкцыю?! Так званыя вучоныя і дзяржаўныя дзеячы Кенігсьберг, Ралевіч, Кенік, Цярноў? Дык іх саміх трэба прыцягваць да персанальнай адказнасьці за падман, замоўчваньне чарнобыльскай праблемы і злачыннае бязьдзеяньне.Час падлічыць страты, нанесеныя нацыі па прычыне нездавальняючага навуковага забесьпячэньня чарнобыльскай праграмы.

Я веру ў сваю перамогу, бо за мной праўда. Не дзяржаўная, а сапраўды народная. Я працягваю справу прэзідэнта Беларускага аддзяленьня Міжнароднай акадэміі геранталогіі Мікалая Арынчына, які пры жыцьці дамагаўся станаўленьня менавіта дзяржаўнай сістэмы тварэньня здароўя ў Беларусі. Я працягваю справу былога аднакурсьніка, дацэнта Уладзіміра Адзінца, які падштурхнуў мяне да пошукаў прычынаў, якія вядуць да захворваньня на сіндром хранічнай стомленасьці і імуннай дысфункцыі... Так, суд пакуль мяне не падтрымлівае ў жаданьні дабіцца справядлівасьці. Ці можа быць інакш у сёньняшняй Беларусі?! Затое са мной застаюцца мае пацыенты. Вельмі прыемна, што ў сваёй заяве ў Мінскі гарадзкі суд жыхары Фрунзенскага раёну г. Мінску і пацыенты пятага ўчастку паліклінікі №12 (больш за 200 подпісаў) зазначаюць, што з сакавіка 2000 году яны пазбаўленыя магчымасьці лячыцца ў Шумілава па прычыне незаконнага яго звальненьня. Яны пішуць у сваёй заяве: «паколькі ўшчэмленыя нашыя законныя правы на пастаяннага ўчастковага ўрача, а суд Кастрычніцкага раёну не ўзнавіў на працы істца, мы заяўляем самастойнае патрабаваньне ўзнавіць на працы кандыдата медыцынскіх навук Шумілава В.М., якому мы давяраем, і выступаем у якасьці трэціх юрыдычных зацікаўленых асобаў на баку істца». Не, апускаць рукі яшчэ рана!

***— Валеры Мікалаевіч, даруйце, а на што зараз жывяце?***

— Я не беспрацоўны! 8 ліпеня мяне аднадушна абралі старшынёй садаводчага таварыства «Гарані» (ёсць такая вёсачка пад Аксакаўшчынай) — 375 участкаў, шмат праблемаў, шмат клопатаў. Але гэта мяне зараз вельмі цікавіць: чыстыя тэхналогіі вырошчваньня садавіны і гародніны, перапрацоўка іх у жывыя сокі з высокім утрыманьнем пектыну (менавіта ён і садзейнічае эфектыўнаму выдаленьню радыёнуклідаў з арганізму). Гэта адно са складаемых маёй лячэбнай праграмы: шчыры пост і ўжываньне жывых натуральных сокаў! Так што я не ўбаку ад справы, а па-ранейшаму ў самым яе цэнтры... А наконт далейшых судовых разьбіральніцтваў па «справе ўрача Шумілава» хачу зазначыць, паўтараючы словы Лукашэнкі, толькі адно: трэба судзіць не так, як хочацца, а па законе! Дай Бог, каб усё, што мы гаворым, не было непрыхаванай хлусьнёй, а было заўжды праўдай і пацьвярджалася канкрэтнай справай на карысьць беларускай нацыі...

**Гутарыў**
**Алесь ГАРКУН.**

# Рэха Дня Незалежнасьці

***Наш бюлетэнь паведамляў, што сьвяткаваньне Дня Незалежнасьці Беларусі сёлета, нягледзячы на забароны ўладаў, прайшло 27 ліпеня па ўсёй краіне. У большасьці гарадоў абышлося без затрыманьняў удзельнікаў сьвятаў. Але былі і "выключэньні"...***




**27 ліпеня 2000 году на мінскай вуліцы.**

***У Гомелі*** на Дзень Незалежнасьці каля будынку аблвыканкаму адбыўся несанкцыянаваны пікет, у якім узялі ўдзел сябра Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Народная Грамада) Кацярына Гаравая і прыхільнік гэтай партыі Ігар Раманаў (жыхар пасёлку Доўск Рагачоўскага раёну). Удзельнікі пікету трымалі ў руках плакаты, на якіх было напісана: "З Днём Незалежнасьці", "Не – фашызму ў Беларусі" (супраць актывізацыі дзейнасьці прафашысцкай арганізацыі РНЕ у Гомелі) і "БСДП (НГ)" – з выявай ружы.

Пікетоўшчыкі змаглі прастаяць усяго каля паўгадзіны, потым да іх пад'ехаў нарад міліцыі з Цэнтральнага РАУС г.Гомелю (усяго сем чалавек) і пачаў затрыманьне. Пры арышце да І.Раманава былі прыменены гвалт – яго кінулі тварам на падлогу, а потым надзелі кайданкі. У Цэнтральным РАУС на І.Раманава і К.Гаравую склалі пратаколы, у якіх пікетоўшчыкі абвінавачваліся па арт. 167.1 КаАП РБ (арганізацыя ці ўдзел у несанкцыянаваным мерапрыемстве). Спачатку затрыманых зьбіраліся судзіць проста ў РАУС, але потым вырашылі судовае разьбіральніцтва перанесьці на панядзелак, 31 ліпеня, пры гэтым у пікетоўшчыкаў узялі пісьмовыя расьпіскі, што яны зьявяцца ў суд.

31 ліпеня ў судзе Цэнтральнага раёну г.Гомелю адбылося судовае паседжаньне. Сьведкамі выступілі ўчастковы інсьпектар Ручкін, які складаў пратакол адміністратыўнага затрыманьня і старэйшы лейтэнант міліцыі Панамарэнка (які пісаў рапарт аб затрыманьні). У судовым паседжаньні прадстаўніком абвінавачваемых выступаў сябра Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Народная Грамада) Алесь Яўсеенка. Працэс цягнуўся нядоўга – усяго каля 30 хвілінаў, у выніку якога судзьдзя Парынскі Яраслаў Ігаравіч вынес наступнае рашэньне:

*Гаравой Кацярыне* — 5 сутак адміністратыўнага арышту;

*Раманаву Ігару* — 7 сутак адміністратыўнага арышту.

Асуджаныя адразу былі накіраваныя адбываць пакараньне ў Гомельскі ізалятар часовага ўтрыманьня.

***У Маладэчне*** 27 ліпеня сябры дэмакратычных партыяў і прыхільнікі незалежнасьці ўскладалі кветкі да памятнага знаку "Пакутнікам за волю і незалежнасьць Беларусі", які знаходзіцца на Цэнтральнай плошчы гораду. На месцы правядзеньня акцыі былі разгорнутыя нацыянальныя сьцягі і сьцягі БНФ. Пасьля ўскладаньня кветак сімволіка была згорнутая і людзі накіраваліся ў парк, каб на летняй эстрадзе паслухаць канцэрт барда Андрэя Мельнікава. Падчас гэтага перамяшчэньня ўжо ў парку да іх далучыўся Яўген Лугоўскі з бел-чырвона-белым сьцягам.

У парку пачаўся "хапун", падчас якога былі затрыманыя Алесь Капуцкі (старшыня Маладэчанскай рады БНФ "Адраджэньне") і сябра КХП Сяргей Боскін, якія былі дастаўленыя ў ГРАУС, куды пазьней прывезьлі і Я.Лугоўскага. Затрыманыя спачатку абвінавачваліся ў арганізацыі несанкцыянаванага шэсьця і выкарыстаньні незарэгістраванай сімволікі, але ў хуткім часе гэтыя абвінавачаньні былі зьнятыя з А.Капуцкага і С.Боскіна. С.Боскін меў пры сабе пасьведчаньне аб рэгістрацыі сьцягу БНФ, таму быў адпушчаны першым, а ў дзеяньнях А.Капуцкага намесьнік начальніка ГРАУС падпалкоўнік Паплёўка ня ўбачыў нічога супрацьзаконнага, таму аддаў загад адпусьціць яго. На Я.Лугоўскага быў складзены пратакол, у якім ён абвінавачваўся ў карыстаньні незарэгістраванай сімволікай.

***У Баранавічах*** 7 жніўня адбыўся судовы працэс, на якім разглядалася скарга Баранавіцкай гарадзкой арганізацыі БНФ "Адраджэньне" на неправамерную забарону Баранавіцкім гарвыканкамам пікету 27 ліпеня г.г., прысьвечанага дзесяцігодзьдзю Незалежнасьці Рэспублікі Беларусь. Пацярпелы бок прадстаўляў Алесь Пікула, яго грамадзкім прадстаўніком у гэтай справе выступаў Сяргей Гоўша (старшыня мясцовай філіі ПЦ "Вясна"). Сутнасьць справы заключаецца ў тым, што Баранавіцкі гарвыканкам без усялякіх законных падставаў палічыў "немэтазгодным" правядзеньне пікету менавіта ў Дзень Незалежнасьці (27 ліпеня), а прапанаваў правесьці пікет на тыдзень раней. Суд прызнаў неправамерным рашэньне Баранавіцкага гарвыканкаму і пастанавіў спагнаць з яго на карысьць заяўніка 13 тысячаў рублёў з вяртаньнем дзяржпошліны.

**Інфармацыйны аддзел ПЦ "Вясна".**

# Нестандартнае рашэньне

У судзе Маскоўскага раёну г.Мінску 7 жніўня адбыўся суд па справе Уладзіміра Раманоўскага (аднаго з кіраўнікоў Аб'яднанай Грамадзянскай партыі, які абвінавачваўся ў тым, што 1 жніўня ён разам з двума сябрамі АГП правялі ля будынку Мінгарвыканкаму несанкцыянаваны пікет. На самай справе У.Раманоўскі прыйшоў сюды, каб перадаць петыцыю мэру гораду. Супрацоўнік міліцыі патэлефанаваў у прыёмную мэра і сказаў, што трэба пачакаць. Раманоўскі з сябрамі па партыі чакалі сорак хвілінаў, пры гэтым яны разгарнулі сваю петыцыю. Калі ім паведамілі, што іх ня прымуць, яны сышлі. У.Раманоўскі быў затрыманы па дарозе дахаты і дастаўлены ў Маскоўскі аддзел міліцыі, дзе быў складзены пратакол пра несанкцыянаванае пікетаваньне. Потым У.Раманоўскага больш за 10 гадзінаў пратрымалі ў сьпецпрыёмніку-разьмеркавальніку, а 2 жніўня даставілі ў суд. Слуханьне справы было перанесенае на 7 жніўня. У гэты дзень судзьдзя Д.В.Анцэновіч у працэсе разгляду справы вынес нечаканае рашэньне. Судзьдзя прызнаў У.Раманоўскага вінаватым у правядзеньні несанкцыянаванага пікету, але, улічыўшы добрую характарыстыку з месца працы і тую акалічнасьць, што пікет не прынёс моцнай шкоды, прыняў рашэньне – зрабіць У.Раманоўскаму заўвагу. Такіх рашэньняў пры разглядзе палітычных справаў не было ўжо вельмі даўно. І прынятае яно было нават нягледзячы на тое, што месяц таму У.Раманоўскі ўжо быў асуджаны гэтым судом па арт.167 КаАП за арганізацыю несанкцыянаванага пікету.

# "Разьвіцьцё "трэцяга сектару" блакуе дзяржава..."

*(Пачатак на стар. 3)*

офісе аб'яднаньня з прычыны пошуку "зброі і наркотыкаў".

За апошнія паўтары гады "Грамадзянскія ініцыятывы" 7 разоў правяралі розныя кантралюючыя органы. Нягледзячы на тое, што фактычна правяралі адно і тое ж, кожны раз азарт кантралёраў усё ўзрастаў, і ў лютым 2000 г. галоўны дзяржаўны падатковы інсьпектар па Гомелю В.Сыцько і старэйшы дзяржаўны падатковы інсьпектар С.Досава вынесьлі рашэньне: заплаціць штраф у памеры 3172 даляраў ЗША, а яшчэ столькі ж прадаць дзяржаве, бо ў яе няма дастаткова валюты. Нашыя апеляцыі ва ўсе вышэйстаячыя інстанцыі ня мелі посьпеху. Абгрунтаванасьць прэтэнзіяў супрацоўнікаў падатковай інсьпекцыі пацьвердзіла іх начальства – намесьнікі начальніка Г.Ярмілаў, Л.Грытчанка і В.Кулыба. Толькі зварот у гаспадарчы суд іх спыніў – у дзень паседжаньня яны зьнялі ўсе свае прэтэнзіі. Але ці надоўга?

Не абдзеленыя мы ўвагай і цэнтральнай дзяржаўнай прэсы. Напрыклад, "Народная газета" за кароткі прамежак часу выдае 3 артыкулы, прысьвечаныя аб'яднаньню "Грамадзянскія ініцыятывы" пад аўтарствам адной і той жа асобы – Ю.Дудзінава. Крытыка заснаваная на такіх крыніцах інфармацыі, як "...Па чутках, якія хадзілі ў апошні час па Гомелі, ...не зьдзіўлюся, калі хто-небудзь з сяброў вышэйзгаданага аб'яднаньня, ...можна выказаць меркаваньне, што..." і інш. Дзіўным момантам тут зьяўляецца тое, што Ю.Дудзінаў ніколі не сустракаўся з сябрамі нашага аб'яднаньня, я ня ўпэўнены, ці быў ён калі-небудзь у Гомелі ўвогуле. Варта здагадвацца толькі, адкуль такая інфармаванасьць у сталічнага журналіста, які сядзіць у Мінску і ў падрабязнасьцях ведае, што робіцца ў звычайнай правінцыйнай арганізацыі.

Нам лёгка было заўважыць, што рэпрэсіі супадаюць з найбольшай актыўнасьцю ў працы арганізацыі ці з яе ўдзелам у агульнанацыянальных кампаніях. Паколькі сёньня "Грамадзянскія ініцыятывы" — ключавая структура ў Гомельскай вобласьці па падрыхтоўцы незалежных назіральнікаў за правядзеньнем выбараў, я не зьдзіўлюся якой-небудзь новай падатковай праверцы ці публікацыі. Так дыктатура "пазначае" небясьпечныя для сябе структуры і намагаецца іх блакаваць.

***— Вы сказалі пра забарону на любыя грамадзянскія ініцыятывы зьнізу. Што вы мелі на ўвазе?***

— У першую чаргу той факт, што ў Беларусі забароненая дзейнасьць незарэгістраваных грамадзкіх аб'яднаньняў. Больш за тое, забаронена нават паведамляць пра такую дзейнасьць, а парушальнікаў гэтых патрабаваньняў чакае суровае пакараньне. Ня ведаю, хто быў ідэолагам і распрацоўшчыкам гэтых нормаў, але гэта быў, відаць, чалавек, у якога вельмі прымітыўнае ўяўленьне пра грамадзтва. Калі сёньня трое суседзяў узяліся за азеляненьне двара, а чацьвёрты напісаў пра гэта артыкул у газету, то ўсе яны ўчынілі калі не злачынства, то парушэньне закону. Калі вы лічыце гэта абсурдам – пазнаёмцеся з беларускім заканадаўствам, і вы даведаецеся, што для таго, каб арганізавана займацца грамадзкай дзейнасьцю, трэба зарэгістравацца. А дзеля гэтага знайсьці мінімум 10 аднадумцаў (а калі вы захочаце быць рэспубліканскім аб'яднаньнем, то і ўсе 50 з большасьці абласьцей краіны), правесьці сход, прыняць статут, выбраць кіруючыя і кантрольныя органы, падрыхтаваць гару дакументаў, знайсьці юрыдычны адрас вашай будучай арганізацыі па-за жылым фондам, заплаціць 8 мінімальных заробкаў за рэгістрацыю і яшчэ немалую суму за абвестку аб рэгістрацыі ў газеце, якую вам назавуць, і г.д. Патрабаваньні закону па сваёй сутнасьці паказваюць, што ў Беларусі існуе ня проста жорсткі кантроль, але і ліцэнзаваньне грамадзкай дзейнасьці.

***— А як вы маглі б рэкамендаваць уладзе кантраляваць і ўлічваць грамадзкія працэсы?***

— Калі дзяржава прэтэндуе на павагу да сябе з боку грамадзянаў, у яе законах заўсёды павінна быць логіка. У гэтай сувязі мне цікава, чаму юрыдычны адрас ня можа быць у жылым доме аднаго з сяброў арганізацыі? Калі чалавек пабудаваў ці набыў сабе дом, хто, акрамя яго, мае права ім распараджацца? Чые інтарэсы тут парушаюцца? Альбо такая сітуацыя: за правядзеньне чытацкай канферэнцыі нас хацелі аштрафаваць не таму, што яна парушала нечыя правы альбо на ёй гучалі заклікі да гвалту ці прапагандавалася міжнацыянальная варожасьць, а проста, па меркаваньні міліцыі, мы павінны былі ў некага прасіць дазвол на падобнае мерапрыемства.

Такім чынам, закон замацоўвае вяршэнства чыноўніка над любым грамадзянінам ці, іншымі словамі, у Беларусі народ існуе для ўлады, а не наадварот. Дзеля таго, каб адсочваць грамадзкія працэсы, улічваць колькасьць аб'яднаньяў і нават кантраляваць іх дзейнасьць, уладзе цалкам дастаткова было б выкарыстоўваць заяўляльны прынцып рэгістрацыі грамадзкіх аб'яднаньняў, якія не жадаюць мець статус юрыдычнай асобы. Так адбываецца ў многіх краінах. Сапраўды, калі арганізацыя плануе мець свой рахунак у банку, весьці гаспадарча-эканамічную дзейнасьць – гэта адно, але калі група энтузіястаў-аматараў вырашыла займацца разьвядзеньнем кветак ці калектыўна вывучаць праблемы самакіраваньня і пры гэтым не парушае грамадзкі парадак, не крадзе, не парушае правоў іншых грамадзянаў – гэта павінна быць выключна іх асабістай справай.

***— І ўсё ж, нягледзячы ні на што, "Грамадзянскія ініцыятывы" працягваюць актыўна працаваць. Што ж складае галоўны рэсурс вашага аб'яднаньня?***

— Без усялякага сумненьня, гэта людзі. Да таго часу, пакуль мы разам, будуць і ідэі, і рэсурсы, і ўсё іншае, што неабходна для пасьпяховай працы. Для такіх людзей, якія працуюць у нас, Беларусь – не чарговы плацдарм ці проста месца працы, а нешта значна большае, і таму за намі будучыня.



**Гутарыла**
**Тацяна РЭВЯКА.**

# БЕЗ ВІНЫ ВІНАВАТАЯ

## АХВЯРЫ ФАШЫЗМУ АТРЫМЛІВАЮЦЬ НА БЕЛАРУСІ КАМПЕНСАЦЫЮ АД НЯМЕЦКІХ УЛАДАЎ ЯК ПАЦЯРПЕЛЫЯ, А Ў БЯЗЬВІННЫХ АХВЯРАЎ СТАЛІНІЗМУ НІХТО НАВАТ НЕ ПАПРАСІЎ ПРАБАЧЭНЬНЯ...

***Фактычна Надзея Раманаўна Дземідовіч дагэтуль зьяўляецца "ворагам народу". Савецкая ўлада яе так і не рэабілітавала, прасіць што-небудзь ва ўлады гэтай яна ня хоча. Як ставіцца сёньняшняя ўлада да Саюза Беларускай Моладзі, у якім у свой час была жанчына, яна добра ведае. Удзел менавіта ў гэтай арганізацыі і ёсьць уся яе віна. А тэрмін зьняволеньня быў папулярны для тых часоў — 25 гадоў... Свой тэрмін Надзея Раманаўна «цягнула» у Кенгірскім лагеры, што ў Казахстане. У 1954 годзе яна была сьведкай паўстаньня зьняволеных. Яно, дарэчы, падрабязна апісанае ў «Архіпелагу ГУЛаг» Салжаніцына. Пра няпростае жыцьцё гэтай жанчыны-беларускі і хочацца расказаць. Яно шмат у чым тыповае. Дзяржава скалечыла яго, але за гэта не папрасіла ў сваёй ахвяры нават прабачэньня...***



Надзея Раманаўна ДЗЕМІДОВІЧ.

### За Польшчай...

За Польшчай беларусам жылося кепскавата. Эканамічна, можа быць, і нічога ў параўнаньні з Саветамі, але польскі ўціск адчуваўся ва ўсім. Бацька Надзеі да вайны езьдзіў на заробкі ў Амерыку. Чалавек ён быў, трэба думаць, энергічны і прадпрымальны. Знайшоў там працу, мімаходзь скончыў аграномічныя курсы і атрымаў пасьведчаньне. Зарабіў грошай і вырашыў вяртацца на радзіму.

Ехаць ён хацеў у БССР. Бацьку здавалася, што жыць там будзе лепш. Жонка яго адгаворвала і адгаварыла. Дапамаглі чуткі пра «сьветлае жыцьцё» ў Савецкай Беларусі ды пра калгасы. Тым больш, бацька прыкупіў зямлі і стаў даволі моцным гаспадаром.

Але прыйшоў верасень 1939-га. Зьмянілася ўлада. Яна стала савецкай і, па традыцыі, пачалася «ачыстка» ад «чужародных элементаў»: каго кідалі ў турму, каго ў лагер, а каго і ў Курапаты. Бацька Надзеі быў аб'яўлены «кулаком». З гэтай прычыны Надзею не прынялі ў піянеры. Нібы паставілі кляймо — нелаяльная.

Пры Польшчы заходніх беларусаў не лічылі за народ, пры Саветах — не лічылі сваімі. Чужыя на сваёй зямлі...

Потым — вайна. Акупацыя. Зноў зьмена ўлады.

Надзея хадзіла ў беларускую школу. У студзені 1942-га году пайшла ў шосты клас. Потым школа стала прагімназіяй. Дырэктарам быў Барыс Сураўвы (ён памёр у эміграцыі).

У прагімназіі арганізаваўся Саюз Беларускай Моладзі. У суполку ўступіў увесь клас. Не прымушалі, але і асабліва не пыталіся. Вучыська ў беларускай школе — уступай у СБМ. Былі тры ўзроставыя катэгорыі. Надзея трапіла ў малодшую. Удзел у СБМ ёй потым і паставілі ў віну. Хаця што дзіця магло разумець у «палітыцы»? Тым ня менш... Згодна з указам Сталіна судзіць і прыгаворваць нават да расстрэлу ў краіне Саветаў можна было з 12-гадовага ўзросту. Але гэта было потым. А пакуль — прыйшла вясна 1944 года. Вызваленьне. Уся моладзь радавалася: пойдзем вучыцца ў інстытуты. Рэальнасьць аказалася крыху іншай...

Перад самым вызваленьнем сястра Надзеі ўзяла шлюб з салдатам Беларускай Краёвай Арміі. Ім давялося адступаць разам з немцамі. Зараз Марыя Данілюк (па мужу) жыве у Амерыцы. А Надзея Дземідовіч засталася на Беларусі. І жыцьцё яе перастала ёй самой належаць...

### Казахстан...

13 сьнежня 1944 годуарыштавалі Ніну Карач, якая ўзначальвала у школе дружыну СБМ. Тройчы прыходзілі па Надзею, але Бог зьлітаваўся, не знайшлі. Нейкі час яе хавалі. Потым маці адправіла Надзею ў Петрапаўлаўск, да стрыечнага брата. Своечасова: хутка і маці, і бацьку арыштавалі. У НКУС пачаўся «сенакос»...

У Казахстане Надзея адразу адчула даволі варожыя адносіны мясцовага насельніцтва да сябе. Як жа, «заходніца», была пад акупацыяй — амаль «фашыстка». Дзядзька яе выгнаў, ня стаў рызыкаваць. Грошай не было, жытла таксама. Што рабіць? Куды ісьці? Надзея пайшла на вакзал. Дзякуй Богу, патрулі яе не забралі, пераначавала. Ранкам сустрэла нейкую жанчыну. Аказалася, яна таксама бежанка з Беларусі і нават ведала бацькоў Надзеі. Паклікала жыць да сябе. Надзеі ўдалося скончыць курсы бухгалтараў. Яе уладкавалі працаваць на чыгунку.

Але... У той час чыгунка лічылася ледзь не рэжымным аб'ектам, і ўтрымацца на рабоце Надзеі як зноў жа «нядобранадзейнай» не ўдалося. Наступным быў хлебакамбінат. Аднойчы галоўбух спрабаваў Надзею згвалтаваць, але атрымаў адпор і прыхаваў злосьць. Неўзабаве Надзея трапіла ў вядомую ўстанову — аддзел МДБ. На няшчасьце яе дапытваў знаёмы з Беларусі. Яны некалі нават сябравалі. Пра вучобу Надзеі ў беларускай школе і пра СБМ гэты сьледчы ведаў, і таму лёс яе хутка вырашыўся...

У камеры № 13 яна прасядзела чатыры месяцы. Сьледчаму па прозьвішчы Ісін яна расказала ўсё, нават

тое, што была памочніцай у Ніны Карач. Допыты адбываліся ноччу. Ёй заганялі іголкі пад пазногці, аднойчы прымянілі «перадавое» катаваньне электратокам. Ноч Надзея была беспрытомная. Сьледчы казаў адно і тое ж: «Ты нам расказала сотую частку таго, што ведаеш. Прызнавайся...» А ў чым ёй было прызнавацца? Яна ведала толькі тое, што ведала. У сьледчага ж была задача —раскрыцьцё шырокай антысавецкай арганізацыі: верагодна, яму ўжо марыліся ордэн на грудзях і зорачка на пагонах за адданую службу.

Нічога гэтага не выходзіла і Надзея трапіла на перасылку. Там упершыню пабачыла яна блатных, бойку прыбалтыек з блатнымі...

## *Лагер...*

На суд Надзею Дземідовіч павезьлі ў Беларусь. Суд адбыўся ў Баранавічах і скончыўся як і для іншых у тыя часы — 25 гадоў лагераў. З Беларусі праз доўгія блуканьні па перасылках Надзея вярнулася ў Казахстан. І стала «жыхаром» дзяржавы пад назвай Стэплаг. На мапе гэтая дзяржава, праўда, пазначаная не была. Але пра яе і так ведалі. Месцам «жыхарства» Надзеі вызначылі Кенгірскі лагпункт. Арыштавалі яе ў 1948-м, да 1954-га заставалася яшчэ шэсьць гадоў...

Кенгірскае паўстаньне зняволеных пачалося ў маі 54-га. Яно цягнулася сорак дзён — нябачаны выпадак. Трэба сказаць, паўстаньні ў лагерах пасьля Вялікай Айчыннай вайны зусім не былі адзінкавымі. Гэта тлумачылася тым, што чарговая хваля «кантынгенту палітычных» складалася з людзей, якія на фронце ці ў лесе глынулі паветра свабоды, прывыклі спадзявацца на сябе і мелі даволі вялікі вопыт баявых дзеяньняў.

Паўстаньні душылі з дапамогай танкаў, артылерыі, авіяцыі, скідвалі нават парашутыстаў. Так было да 53-га году. Але памёр Сталін, арыштавалі і расстралялі Берыю і яго «падзельнікаў». Сітуацыя зьмянілася і прымяняць армію ў час паўстаньняў у лагерах стала небясьпечна. Маглі запісаць у берыеўцы з адпаведнымі наступствамі.

## *Кенгір...*

У Кенгіры, успамінае Надзея Раманаўна, усё пачалося з забастоўкі. А забастоўка — пасьля правакацыяў ахоўнікаў, якія застрэлілі дзяўчыну, старога кітайца, але цярпеньне перапоўніў расстрэл калоны — 16 параненых. Людзі захваляваліся. Было прынятае рашэньне не выходзіць на работу. Аднак, забастоўку лагернай адміністрацыі ўдалося спыніць.

Потым быў прыменены выпрабаваны спосаб супакоіць «палітычных»: прыгналі этап блатных. Блатныя і тыя, хто ішоў па «58-ым артыкуле», былі заўсёды ворагамі. Такім чынам хацелі навесьці парадак у зоне.

Але час быў ужо ня той. Да «паханоў» прыйшлі моцныя хлопцы і папярэдзілі: «Вас — 600 чалавек, а нас — 2600. Думайце. Калі будзеце нас рэзаць — мы вас передушым». Злодзеі адказалі: «Не, мы будзем з «мужыкамі». Разьлік лагернага начальства не апраўдаўся. Далей — болей. Зьняволеныя па сутнасьці захапілі лагер. Былі нават выбраныя свая «адміністрацыя» і свая служба бясьпекі, — усё як мае быць. Кіраўніком стаў Кузняцоў, былы палкоўнік, які атрымаў свой тэрмін за тое, што яго салдат перабег у заходнюю зону акупацыі ў Германіі. Адносная вольніца цягнулася нейкі час, і было ясна: трэба штосьці пачынаць. Вырашылі захапіць гаспадарчы двор са складамі харчаваньня. Прыступ пачалі блатныя. Але іх сустрэў узвод аўтаматчыкаў. Былі забітыя, шмат параненых. Параненых калолі штыкамі і дабівалі ламамі. На гаспадарчым двары разьмясьціліся кулямётчыкі.

Паўстаньне тым часам разьвівалася. Паехалі дэлегацыі высокіх чыноў з МУС. Перш чым запусьціць у зону, іх абшуквалі, у тым ліку жанчыны. Надзея таксама гэта рабіла. Дэлегацыі спрабавалі патушыць паўстаньне знаёмымі спосабамі: пакуль, праўда, уговорамі. Ім, вядома, ня верылі. Лагерны вопыт не даваў такой магчымасьці.

Асабліва цікавы момант: Надзея Раманаўна расказвала пра адносіны мужчынаў і жанчын у лагеры пасьля пачатку паўстаньня. Раней яны былі проста зэкі. Цяпер яны сталі зноў мужчынамі і жанчынамі. Нічога бруднага між імі не было. Ноччу дзяжурылі зьмешаныя пасты: мужчыны і жанчыны. Яшчэ дзіўнае: у лагеры былі ксяндзы, якія часта завочна вянчалі, напрыклад, літоўца з літоўкай, латыша з латышкай. Муж і жонка ўбачылі адзін аднаго толькі пасьля пачатку паўстаньня, калі жаночая і мужчынская зоны аб'ядналіся...

Здабытая свабода была адноснай — свабодай пад рулямі кулямётаў і аутаматаў. І не пашыралася далей за зону. Але гэта была свабода. І яе хапіла, каб зэкі адчулі сябе людзьмі...

25 чэрвеня, на саракавы дзень паўстаньня, усё скончылася. Зараўлі танкі, загулі самалёты,войскі пайшлі ў атаку на бяззбройных людзей. «Байцы» перад атакай атрымалі гарэлку: так лягчэй забіваць безабаронных. Білі ўсіх, хто трапляўся на дарозе. Кіяўлянку Алу Прэсман танк пераехаў гусеніцай па жываце.

Танкі наязджалі на ганкі баракаў, давілі людзей і там. Надзея Раманаўна ў гэты час была ў бараку. Падбегла да вакна і бачыла гэтую жудасьць. Яна бачыла, як хлопец з дзяўчынай самі кінуліся пад танк. Жанчыны спрабавалі сабою захінуць мужчынаў, іх калолі штыкамі. Опер-упаўнаважаны па прозьвішчы Бляяеў у гэты дзень забіў каля двух дзясяткаў чалавек.

Колькі было забітых? Каля сямісот чалавек. Астатніх выгналі ў голы стэп, паклалі на зямлю і прымусілі ляжаць гэтак суткі. Потым быў «шмон», расфарміраваньне, суды, перасылкі...

## *Вызваленьне...*

Пасьля Кенгіру Надзея трапіла ў Тайшэцкія лагеры. Спачатку на сьлюду, потым на лесапавал. Там захварэла, на лёгкіх зьявіліся плямы. Яна «даходзіла» і, відаць, усё скончылася б сумна. Але трапіла ў «бальнічку». Дарэчы, у Тайшэце яна «куму» паведаміла, што забралі яе падлеткам і яна мае права на вызваленьне. Адказ быў: «У сувязі з удзелам у Кенгірскім паўстаньні на вызваленьне права ня маеш».

Але, відаць, было ясна, што работнік з Надзеі ўжо ніякі. І ў 1956 годзе яе адпусьцілі дадому. У Мінску яе сустрэла сястра, студэнтка політэхнічнага інстытуту. Паехалі ў інтэрнат, зьбегліся студэнткі, арганізавалі невялікае сьвята...

## *Жыцьцё і праца...*

Потым пачалося «цывільнае» жыцьцё, якое няшмат адрозьнівалася ад лагернага. Надзея Раманаўна працавала на «Гарызонце». Звольнілі. «Ты, вядома, ня лічышся судзімай, але цэх — абаронны... Сама разумееш...» — патлумачыў ёй начальнік цэху.

Быў інсульт, першая група інваліднасьці. Цяпер група інваліднасьці трэцяя. Надзея Раманаўна жыве адна ў Калодзішчах, пад Мінскам. Гаворыць яна на чыстай, прыгожай беларускай мове.

Ёй засталіся толькі ўспаміны. Ды вось яшчэ кінафільм «Людаед», пра Кенгірскае паўстаньне. Яго зьнялі літоўцы разам з амерыканцамі. Знайсьці яго цяжкавата. Я б хацеў мець гэтую касету...

## *Браты і сёстры...*

У Кенгіры было шмат і беларусаў: Шэйбак Ірына і Шэйбак Настасься з Пінску, Касмовіч Вера з Гарадзеі, Дземянчук Сафія з Карэлічаў, Рашатняк Пётр з Баранавічаў, Пазьняк Мікалай з Барысаву, Азарка Марыя і Аляксандр з Нясьвіжскага раёну... Іх застаецца ўсё менш і менш. Яны адзін аднаму і па сёньня, як браты і сёстры. Яны часта сустракаюцца. Занадта многае іх зьвязвае...

Неяк Надзея спытала ў сьледчага: «За што вы мяне арыштавалі? Я ж нічога не зрабіла...» «А ты магла б зрабіць...» Універсальны адказ: магла б. Кляймо пастаўлена, нашыты лагерны нумар, крок улева, крок управа...

Вы кажаце, што час сёньня іншы? Што ўсё зьмянілася? Не. Час заўсёды адзін і той жа. І людзі адны і тыя ж. У сэнсе — яны маюць уласьцівасьць на ўсё забывацца і не вучыцца на сваіх памылках. А некаторыя з настальгіяй згадваюць пра тыя часы, калі панавала "жалезная рука" Сталіна. Бо тады ў краіне быў "парадак". Пра бязьвінных ахвяраў гэтага "парадку" не ўспамінае ніхто. І яны, хворыя і бездапаможныя, вымушаныя дажываць сваё жыцьцё ў галечы ды адзіноце...

**Андрэй СЯРЖАН.**

# Падзеі Факты Каментары

(Пачатак на стар. 1)

***14 жніўня*** намесьнік старшыні Кансерватыўна-Хрысьціянскай партыі — БНФ Юры Беленькі зьвярнуўся са скаргай у мінскую гарадзкую пракуратуру. Ён нязгодны з адмовай пракуратуры Савецкага раёну г.Мінску ўзбудзіць справу ў дачыненьні да супрацоўнікаў міліцыі, якія зьбілі Ю.Беленькага 25 сакавіка гг. На гэты дзень была прызначаная акцыя апазіцыі "Дзень Волі". Яшчэ да пачатку акцыі супрацоўнікі міліцыі і сьпецназаўцы пачалі захоп людзей. Ю.Беленькага зьбілі з ног і білі дубінкамі і нагамі. У выніку ён атрымаў чэрапнамазгавую траўму. Ю.Беленькага даставілі ў сьпецпрыёмнік-разьмеркавальнік і пратрымалі там больш за суткі, не аказваючы ніякой дапамогі, нягледзячы на скаргі пра дрэннае самадчуваньне. Гэта ўжо другая скарга Ю.Беленькага. Савецкая пракуратура г.Мінску адмовіла ва ўзбуджэньні крымінальнай справы па факце прычыненьня Ю.Беленькаму цялесных пашкоджаньняў і неаказаньня своечасовай медыцынскай дапамогі. Аднак Ю.Беленькі і яго адвакат В.Страмкоўская маюць намер дамагацца ўзбуджэньня крымінальнай справы і правядзеньня аб'ектыўнага расьсьледаваньня.







*3 жніўня на плошчы Бангалор у Мінску "Цэнтр па правах чалавека", які ўзначальвае вядомая адвакатка Вера Страмкоўская, правёў пікет, прысьвечаны праблеме зьнікненьня вядомых людзей: палітыкаў – В.Ганчара і Ю.Захаранкі, бізьнесмена А.Красоўскага, тэлежурналіста Дз.Завадзкага. У акцыі ўзялі ўдзел прадстаўнікі Праваабарончага Цэнтру "Вясна", аб'яднаньня "Прававая дапамога насельніцтву" і грамадзянскай ініцыятывы "Хартыя-97" – усяго 15-20 чалавек. Падчас акцыі ўдзельнікі раздавалі ўлёткі з інфармацыяй па гэтай праблеме і Усеагульную дэкларацыю правоў чалавека.*

***15 жніўня*** адбылася прэс-канферэнцыя лідэраў аб'яднанай дэмакратычнай апазіцыі. Старшыня АГП Анатоль Лябедзька, старшыня БСДГ Станіслаў Шушкевіч, старшыня жаночай партыі "Надзея" Валянціна Палевікова і намесьнік старшыні Кангрэсу дэмакратычных прафсаюзаў Віктар Івашкевіч заявілі, што іх партыі адмаўляюцца ад удзелу ў выбарах, прызначаных А.Лукашэнкам на 15 кастрычніка, і запрашаюць іншыя дэмакратычныя арганізацыі краіны далучыцца да байкоту выбараў. На прэс-канферэнцыі было паведамлена, што "Марш Свабоды-3" адбудзецца 1 кастрычніка гг.

***16 жніўня*** распачалі стыхійны страйк рабочыя стаўбцоўскага машынабудаўнічага заводу. Прычынай страйку стала двухмесячная нявыплата заробку. 17 жніўня на працу ня выйшлі каля дзьвюх тысячаў рабочых завода.

***18 жніўня*** ў Вярхоўным судзе Рэспублікі Беларусь пачаўся разгляд крымінальнай справы экс-прэм'ерміністра РБ М. Чыгіра па касацыйным пратэсьце пракурора і касацыйнай скарзе адваката. М.Чыгір адразу вынес хадайніцтва аб прыпыненьні разгляду справы і накіраваньні яе ў гарадзкі суд, які разглядаў яго справу, дзеля азнаямленьня абароны з пратаколам судовага сьледзтва. Справа ў тым, што Гарадзкі суд парушыў права абвінавачваемага на абарону, ня даўшы магчымасьці абаронцам азнаёміцца з касацыйным пратэстам і зрабіць на яго свае заўвагі. Абарона падтрымала хадайніцтва, хаця пракурор Юркевіч быў супраць і настойваў на неадкладным разглядзе справы. Калегія Вярхоўнага суда РБ прызнала грубае парушэньне права падсуднага на абарону і прыняла рашэньне накіраваць матэрыялы справы зноў у Гарадзкі суд.

***21 і 22 жніўня*** ў судзе Ленінскага раёну г. Брэсту разглядаўся грамадзянскі зыск па справе аб дарожна-траспартным здарэньні 8 траўня, калі пад коламі аўтамабілю, у якім ехаў старшыня аблвыканкаму В.Даўгалёў, загінула жанчына. Крымінальную справу супраць кіроўцы аўтамабілю спынілі за адсутнасьцю складу злачынства, але бацькі загінуўшай Ірыны Панасюк, на чыім утрыманьні засталася 11-гадовая ўнучка, вырашылі спагнаць з аблвыканкаму 649 тыс. руб., патрачаных на пахаваньне, і 900 тыс. за маральную шкоду. Старшынявала на судовым паседжаньні судзьдзя А.Манюк. Суд прыняў выніковае рашэньне часткова задаволіць зыск бацькоў загінуўшай і спагнаць з адказчыка ў кошт матэрыяльнай шкоды 649 тыс. руб., у кошт маральнай – 600 тыс. руб.

***21 жніўня*** актывістка Аб'яднанай грамадзянскай партыі Галіна Юрына з непаўнагадовым сынам знаходзілася каля ўласнага гаражу. У 22 гадзіны да іх пад'ехалі дзьве машыны з супрацоўнікамі міліцыі. Міліцыянты запатрабавалі ад жанчыны, каб яна адчыніла сваю машыну дзеля правядзеньня дагляду. На патрабаваньне Г. Юрынай прадставіць свае службовыя пасьведчаньні міліцыянты адмовіліся гэта зрабіць, а таму яна сказала, што дазволіць адчыніць машыну толькі ў РАУС. Сына Г.Юрынай адпусьцілі дадому, а яна ў суправаджэньні супрацоўніка міліцыі, які сеў з ёй побач у машыну, накіравалася ў Фрунзенскі РАУС. У РАУС міліцыянты адчынілі машыну і знайшлі там улёткі (каля 20 тысячаў асобнікаў), якія ўтрымлівалі заклік да байкатаваньня маючых адбыцца 15 кастрычніка выбараў у Палату прадстаўнікоў РБ. Быў складзены пратакол канфіскацыі, а друкаваная

прадукцыя накіраваная ў пракуратуру на эксьпертызу. У аддзеле міліцыі Г.Юрыну пратрымалі да гадзіны ночы, а потым адпусьцілі. Увесь гэты час там знаходзіўся ў якасьці назіральніка старшыня ПЦ "Вясна" Алесь Бяляцкі. Вядома, што аб'яднаная дэмакратычная беларуская апазіцыя прыняла рашэньне байкатаваць выбары. Гэта дазваляе Выбарчы кодэкс РБ, але, як бачым, на практыцы гэтае права вельмі цяжка рэалізаваць.

***21 жніўня*** пачаўся разгляд касацыйнай скаргі дэпутата Вярхоўнага Савету 13-га скліканьня бізьнесмена Андрэя Клімава, ягонага былога намесьніка на фірме Леаніда Валковіча і прараба Уладзіміра Лук'янчука. "Прысуд пакінуць без зьменаў, у касацыйнай скарзе адмовіць,"– такое рашэньне прыняла калегія Мінскага гарадзкога суда пасьля двух дзён разгляду. Нагадаем, сёлета ў сакавіку пасьля 8-месячнага разгляду Ленінскі раённы суд г. Мінску вынес рашэньне, што А.Клімаў і ягоныя падначаленыя вінаватыя ў крадзяжы дзяржаўнай маёмасьці ў буйных памерах падчас будаўніцтва дому на вуліцы Лодачнай у Мінску. Андрэй Клімаў быў асуджаны на шэсьць гадоў пазбаўленьня волі, Леанід Валковіч – на чатыры, прараб Лук'янчук – на тры гады з адтэрміноўкай. Абвінавачаныя з такім прысудам не пагадзіліся і абскардзілі яго ў Гарадзкім судзе. Цяпер, па словах абаронцаў асуджаных, яны будуцьзьвяртацца да старшыні гарадзкога суда, затым — у Вярхоўны суд. Абаронцы таксама зьвярнулі ўвагу на тое, што падчас касацыйнага разгляду, як і на першым працэсе, парушаліся правы А. Клімава на абарону. У прыватнасьці, разгляд касацыі адбываўся ў адсутнасьць асуджанага, хаця ён рашуча настойваў на сваім удзеле ў паседжаньні і закон гэта дазваляе. Упершыню была дапушчаная ў якасьці абаронцы да ўдзелу ў працэсе жонка А.Клімава Таццяна Леановіч. Атрыманы за дзень да разгляду касацыйнай скаргі статус абаронцы дазволіць ёй наведваць мужа ў турме калі заўгодна, а не раз на паўгады як проста жонцы вязьня.

***22 жніўня*** "Белорусская деловая газета" паведаміла, што да іх у рэдакцыю зьвярнуўся былы супрацоўнік фірмы "Пушэ" Уладзімір Огнеў, які распавёў пра тое, што за апошнія паўгады яго двойчы выклікалі ў КДБ і дапытвалі наконт некаторых асьпектаў дзейнасьці "Пушэ", зьвязаных з былым прэм'ер-міністрам Міхаілам Чыгіром. Грамадзкі абаронца М.Чыгіра Гары Паганяйла так пракаментаваў гэтую заяву: "Па нашай інфармацыі, расьсьледаваньне (справы М.Чыгіра) працягваецца і займаецца ім КДБ. Вельмі можа быць, што цяпер, напярэдадні выбараў, улады будуць шукаць любыя кампраметуючыя дадзеныя. Бо папярэдняя справа цалкам развалілася, а кампрамат ім патрэбны".

***23 жніўня*** ў Барысаве (Мінская вобласьць) адбылася прэс-канферэнцыя з нагоды стварэньня Барысаўскага інфармацыйна-прававога цэнтру. Цэнтр заснаваны Барысаўскімі аддзяленьнямі Праваабарончага Цэнтру "Вясна", Беларускага хельсінкскага камітэту, Свабоднага прафсаюзу беларускага. Цэнтр ня мае самастойнага юрыдычнага статусу, усе арганізацыі ўвайшлі ў яго на правах самастойных. Асноўныя мэты стварэньня цэнтру – гэта каардынацыя дзейнасьці паміж праваабарончымі арганізацыямі, абмен інфармацыяй, вопытам, агульны маніторынг правоў чалавека ў горадзе і рэгіёне. Пры цэнтры адчыняецца грамадзкая прыёмная, дзе юрысты з ПЦ "Вясна" і БХК будуць кансультаваць насельніцтва па разнастайных юрыдычных пытаньнях. Таксама пры цэнтры створаная каардынацыйная рада, у якую ўвайшлі: ад ПЦ "Вясна" – Зьміцер Бародка, ад БХК – Алесь Абрамовіч, ад СПБ – Ігар Леднік.

***25 жніўня*** судовая калегія Вярхоўнага суда РБ адмяніла прысуд Мінскага гарадзкога суда, які быў вынесены ў чэрвені гг. Міколу Статкевічу і Валерыю Шчукіну і накіравала справу на новы судовы разгляд. Нагадаем, што за ўдзел у "Маршы Свабоды-1" Мінскі гарадзкі суд асудзіў М.Статкевіча на два гады пазбаўленьня волі з адтэрміноўкай на два гады і В. Шчукіна — на год з адтэрміноўкай на год. Рашэньне Вярхоўнага суда дазволіць М.Статкевічу і В.Шчукіну прыняць удзел у парламенцкіх выбарах.

***29 жніўня*** ў мінскім гатэлі "Планета" адбылася сустрэча журналістаў з выканаўчым дырэктарам Міжнароднай хельсінскай федэрацыі Ааронам Роўдзам, каардынатарам па СНГ Уладзімірам Вайсманам і прадстаўнікамі Беларускага хельсінскага камітэту Таццянай Процька і Гары Паганяйлам. А.Роўдз падзяліўся думкамі і ўражаньнямі пра праект, Хельсінскага камітэту, зьвязаны з выбарамі 15 кастрычніка г.г. у Палату прадстаўнікоў РБ. Сэнс праекту ў тым, што падчас выбараў, якім буйныя апазіцыйныя партыі абвясьцілі байкот, Хельсінскі камітэт будзе праводзіць маніторынг. "Мэта нашай работы – умацаваньне ў Беларусі міжнародных стандартаў у тым, што тычыцца дэмакратызацыі і правоў чалавека. У нас няма звычкі назіраць толькі правільныя і свабодныя выбары, мы не займаемся назіраньнямі ў Швейцарыі ці Даніі. Нас цікавяць выбары ў такіх краінах як Харватыя, Сербія, Кыргызстан", — сказаў А.Роўдз. Журналістаў цікавіла: ці не будзе праект Хельсінскага камітэту садзейнічаць легітымізацыі выбараў, не прызнаных еўрапейскай супольнасьцю. А.Роўдз падкрэсьліў, што праект ня мае палітычнага характару. Хельсінскі камітэт не займаецца палітыкай, а засяродзіцца на фактах парушэньняў правоў чалавека, якія адбудуцца падчас выбарчай кампаніі і ў дзень выбараў. Падчас прэс-канферэнцыі вядомы ў Беларусі адвакат Гары Паганяйла паведаміў журналістам пра свае планы ўдзельнічаць у выбарах, каб мець магчымасьць выявіць сваю грамадзянскую пазіцыю. У сувязі з гэтым Г.Паганяйла на час выбарчай кампаніі прыпыняе сваю дзейнасьць у БХК (але толькі часова), каб падкрэсьліць, што БХК – не палітычная арганізацыя.

***30 жніўня*** тэхнічная канферэнцыя АБСЕ ў Вене прыняла рашэньне не дасылаць сваіх назіральнікаў на парламенцкія выбары, якія павінны прайсьці ў Беларусі 15 кастрычніка гг. У працы канферэнцыі бралі ўдзел прадстаўнікі АБСЕ, Парламенцкай асамблеі АБСЕ, парламенцкай тройкі Еўрапарламенту, а таксама прадстаўнікі Парламенцкай асамблеі СНД. Беларускія дэмакратычныя сілы прадстаўлялі віцэ-сьпікер Вярхоўнага Савету, старшыня АГП Анатоль Лябедзька і старшыня БНФ Вінцук Вячорка. Ад беларускіх уладаў прысутнічаў намесьнік міністра замежных справаў Мартынаў. Паводле рашэньня канферэнцыі у Мінск будзе дасланая місія БДІПЧ (Бюро па дэмакратычных інстытутах і правах чалавека), якая за чатыры тыдні павінна вынесьці сваю ацэнку "выбарам у палату прадстаўнікоў".

***30 жніўня*** прадстаўнікі Беларускага народнага фронту, якія падавалі заяўку аб правядзеньні ў Мінску 8 верасьня сьвяткаваньня Дня беларускай вайсковай славы, на разглядзе гэтай заяўкі ў Мінгарвыканкаме атрымалі адказ, што, маўляў, калі бітва была пад Оршай, дык і сьвяткуйце яе гадавіну там... Намесьнік старшыні БНФ Віктар Івашкевіч адклікаў заяўку і заявіў, што ніхто не перашкодзіць грамадзянам прыйсьці а 18 гадзіне 8 верасьня на плошчу Перамогі і ўскласьці там кветкі, а потым прайсьці ў парк Янкі Купалы і адсьвяткаваць 586-ю гадавіну перамогі войскаў Вялікага княства Літоўскага над войскамі Маскоўскага княства.

***У жніўні*** стала вядома, што Дзяржаўны камітэт фінансавых расьсьледаваньняў РБ заблакаваў рахунак упраўленьня справамі Федэрацыі прафсаюзаў Беларускай. 120 супрацоўнікаў упраўленьня ФПБ ня могуць атрымаць заробак. Гэта вынік адкрытай канфрантацыі паміж уладамі і афіцыйнымі беларускімі прафсаюзамі. Калі перасталі дзейнічаць ідэалагічныя рычагі ціску на ФПБ, улады сталі прымяняць рычагі "эканамічныя".

***У жніўні*** стала вядома, паведамляе прэс-цэнтр "Хартыі-97", што сям'я генерала Захаранкі, які зьнік у траўні 1999 году, мае намер прасіць палітычнага прытулку ў Германіі. Жонка экс-міністра ўнутраных справаў ужо некалькі тыдняў знаходзіцца ў Германіі. Да яе далучыліся дочкі, адна зь іх — з маленькім дзіцём. Яны ўдзельнічаюць у сустрэчах з грамадзкасьцю, праводзяць прэс-канферэнцыі. На працягу ўсяго візіту ім тэлефануюць невядомыя і пагражаюць расправай па вяртаньні на радзіму. Гэта і падштурхоўвае іх да магчымага прыняцьця рашэньня аб невяртаньні дамоў.

***Напрыканцы жніўня*** Грамадзкае аб'яднаньне "Цэнтр па правах чалавека" атрымала пісьмовае папярэджаньне ад Упраўленьня юстыцыі Мінгарвыканкаму за тое, што на бланку выкарыстоўваецца назва і сімволіка, якія адрозьніваюцца ад зарэгістраваных. Па словах адваката Веры Страмкоўскай, якая ўзначальвае арганізацыю, Міністэрства юстыцыі РБ робіць спробы ліквідаваць праваабарончыя арганізацыі і таму за першым папярэджаньнем можа быць другое, якое і стане "падставай" для закрыцьця "Цэнтру па правах чалавека".

# Чым далей на захад, тым лепш...

## *Нататкі пра сістэму ўтрыманьня вязьняў у Польшчы*

Загадчык аддзелу ўліку Цэнтральнага ўпраўленьня Польскай пенітэнцыярнай службы палкоўнік-магістр Зьдзіслаў Вянькоўскі лічыць, што калі дзяржава затрымала і ізалявала грамадзяніна, дык яна павінна забясьпечыць яму нармальныя, цывілізаваныя ўмовы ўтрыманьня. Што азначаюць для палякаў словы "нармальныя, цывілізаваныя ўмовы", мне давялося пабачыць пры наведваньні сьледчага ізалятару ў Варшаве-Служэўцу. Але пра гэта пазьней. А пакуль пра агульны стан пенітэнцыярнай сістэмы ў Польшчы.

Большасьць польскіх турмаў разьмешчаныя на поўдні і захадзе краіны. На ўсходзе іх менш. Так склалася гістарычна: заходнія і паўднёвыя землі былі акупаваныя немцамі і аўстра-венграмі. У той час і будаваліся тут турмы. Усходнія землі належалі Расіі, і тут не было патрэбы будаваць турмы — бо ў Расіі была вялізная Сібір, куды ссылалі ня толькі крымінальнікаў, але і ўсіх нязгодных з акупацыйным рэжымам. Установы пенітэнцыярнай сістэмы Рэспублікі Польшча разьлічаныя на адначасовае ўтрыманьне 63 тысячаў зьняволеных. На цяперашні час у месцах пазбаўленьня волі ў краіне знаходзяцца 58 тысячаў вязьняў. З гэтага вынікае, што ня ўсе месцы запоўненыя, што няма так звыклай нам перанаселенасьці турмаў.

Па мажлівасьці вязьняў стараюцца ўтрымліваць бліжэй да іхняга дому. Дзеля зручнасьці наведаньня роднымі. Дарэчы, сустрэчы тут дазваляюцца тры разы на месяц па адной гадзіне. З 1 верасьня 1998 году быў уведзены новы Кодэкс, які рэгламентуе спосабы ўтрыманьня зьняволеных. Дзеляцца яны паводле гэтага на тры тыпы: закрытыя, паўзакрытыя і адкрытыя установы. Апошнім часам павялічваецца колькасьць затрыманых, якім менш за дваццаць чатыры гады. Прычым большасьць з іх тэрмін зьняволеньня атрымлівае першы раз. Грамадзяне, якія адбываюць пакараньне, могуць выбраць для сябе праграму працы альбо вучобы. Каля 60 адсоткаў асуджаных скарыстоўваюць гэтую мажлівасьць, тым самым спалучаючы, так бы мовіць, карыснае з непазьбежным.

Той, хто ня хоча працаваць па нейкай праграме, проста адбывае тэрмін. Для некаторых катэгорыяў вязьняў існуюць сьпецыяльныя тэрапеўтычныя аддзелы, дзе можна прайсьці курс лячэньня. У такіх аддзелах утрымліваюцца алкаголікі, наркаманы, людзі з псіхічнымі захворваньнямі, з фізічнымі недахопамі. Асобна ўтрымліваюцца наркаманы, якія маюць захворваньне на СНІД. Для асуджаных жанчынаў сьпецыяльныя ўстановы ёсьць у чатырох гарадах. У адной з такіх турмаў знаходзяцца маці з дзецьмі да трох гадоў. Усе асуджаныя маюць вольны доступ да прэсы і радыё.

У Польшчы адмененае сьмяротнае пакараньне. Найвышэйшая мера тут — пажыцьцёвае зьняволеньне. Па рэкамендацыі псіхолагаў асуджаныя не знаходзяцца ўвесь час у адным месцы, іх перыядычна пераводзяць у іншыя. Пасьля 25 гадоў адбыцьця пакараньня можна выйсьці на волю пры ўмове, што не было парушэньняў рэжыму. Аднак рэальна да гэтага часу мала хто зможа дажыць.

Вялікай праблемай для палякаў зьяўляюцца замежнікі, асабліва з Усходу. Грамадзяне заходніх краінаў стараюцца пры парушэньні польскіх законаў дабіцца, каб іх дэпартавалі на радзіму. Бо ўмовы ўтрыманьня далей на захад лепшыя, чымсьці ў Польшчы. Грамадзяне краінаў СНД, наадварот, адбываюць тэрміны зьняволеньня ў Польшчы. На пачатак гэтага году ў месцах зьняволеньня знаходзілася 1605 замежнікаў. Усім ім будзе прадастаўлены адвакат. Без адваката суд адбыцца ня можа. Калі ў падсуднага ня будзе грошай, каб аплаціць паслугі абаронцы, за яго гэта зробіць польская дзяржава.

У польскіх турмах найбольш зьняволеных родам з Украіны ды Расіі. На трэцім месцы Беларусь. Больш за 150 нашых суайчыньнікаў адбываюць цяпер пакараньне ў польскіх турмах, 70 з іх ужо асуджаныя, астатнія яшчэ чакаюць выраку суда. Пасьля заканчэньня тэрміну ў большасьці яны будуць арганізавана дэпартаваныя да месца свайго пастаяннага жыхарства.

На маю просьбу сустрэцца са зьняволенымі з Беларусі пан Зьдзіслаў выказаў згоду. Адзінае, што яго хвалюе, ці захочуць самі асуджаныя бачыць суайчыньнікаў...

У сьледчым ізалятары Служэвец нас суправаджае намесьнік дырэктара пан Адам Зарэмба. Да жыцьця адносіцца па-філасофску, лічыць, што ўсялякае можа здарыцца, і, здаецца, што сваіх падапечных ён любіць. Занатоўваю кінутую ім фразу: "Бывае, што і ў драўляным касьцёле цагліна на галаву ўпадзе".

З задавальненьнем ён паказвае сваю гаспадарку. Заходзім у будынак, ідзем у пакой наглядчыка. Тут адбудзецца сустрэча. Уваходзіць малады хлопец, 1974 году нараджэньня, завуць Сяргей. У яго хутка заканчваецца тэрмін — 3 гады зьняволеньня. Да таго як патрапіў сюды, закончыў 3 курсы мэдінстытуту. Быў асуджаны па арт. 280.1 польскага Крымінальнага кодэксу: "крадзеж з прымяненьнем насільля да асобы або з пагрозай яго прымяніць" (ад 2 да 12 гадоў) і арт. 224.1 "аказаньне ўзьдзеяньня на службовую дзейнасьць органу адміністрацыі ўлады" (да 3 гадоў). Нас пакідаюць у пакоі адных. Сяргей расказвае пра сябе:

– Вучыўся на трэцім курсе медінстытуту. Матэрыяльна было цяжка, не было каму дапамагчы. Хлопцы прапанавалі зьезьдзіць у Польшчу на заработкі. Чым будзем займацца, ня ведаў. Гэта была першая паездка. Стаяў на вуліцы, чакаў астатніх. Куды пайшлі сябры, не пытаўся...

У выніку, затрымалі толькі Сяргея і асудзілі. За ўвесь час яго ніхто не праведаў у турме... Разумныя разгубленыя вочы, шчыры твар... Шкада хлопца. І чаму маладыя ня хочуць зразумець, што лёгкіх грошай не бывае?

У пакой запрашаюць наступнага хлопца. Міхаіл з Мастоў Гродзенскай вобласьці, 1977 году нараджэньня. Той жа арт. 280.1 КК. Выгляд разбойніка. Сустракацца ў нялюдным месцы з такім не хацелася б.

Хлопец ня можа стаяць на месцы, увесь час рухаецца. Расказвае, што быў затрыманы п'яны вечарам ля аднаго з варшаўскіх рынкаў. Цьвярозы ніколі б таго, што здарылася, не зрабіў. Пан Адам прапануе яму вярнуцца ў Беларусь і там адбываць тэрмін зьняволеньня. Не пагаджаецца. Кажа, што тут яму добра. На пытаньне, ці мае ён скаргі, ажыўляецца. Аказваецца, што яго ўжо два тыдні не наведвае адвакат (за паслугі адваката, вядома, ён ня плоціць). Вось ужо тры дні, як не працуе наручны гадзіньнік, бо скончылася сілкаваньне. Тут усе кнігі і газеты на польскай мове, а ён хоча чытаць па-руску. Пан Адам запэўнівае, што ягоныя просьбы будуць выкананыя.

Далей ідзем у сьпецыяльнае аддзяленьне для наркаманаў, хворых на СНІД. Кіраўнік аддзяленьня Артур Сяткоўскі па сьпецыяльнасьці псіхолаг.

Тут знаходзяцца наркаманы, якія самі пагадзіліся лячыцца. Прымусова сюды нікога не прывозяць. Апроч медыкаментознага лячэньня, з вязьнямі праводзяць заняткі псіхатэрапіі, як індывідуальна, так і ў групах. На працягу дня з імі працуюць псіхолагі. Абстаноўка больш падобная да санаторыя, чым да турмы.

Пан Адам запрашае "кліента" з гэтага аддзяленьня. Заходзіць хлопец 20-ці год, апрануты ва ўсё чорнае. На галаве акуратна стрыжаны "іракез". Вялікі крыж на шыі, крыжыкі ў вушах. Татуіроўкі на руках, шыі, твары. Прызнацца, такое бачу ўпершыню. Завуць Збышэк. Яму тут падабаецца. Пазьней пан Адам раскажа, што Збышэк моцна хворы і жыць яму засталося мала. Паходзіць ён з вельмі забясьпечанай сям'і – не ўберагліі бацькі хлопца.

Выходзім з пакою на калідор, чуваць рытмічная музыка. Цікаўлюся, што гэта значыць. Мне тлумачаць, што ў вязьняў ідуць заняткі аэробікі.

Выходзім з будынку. А на волі ўсё ж лепш...

**Леанарда МУХІНА.**

**Права на волю. Бюлетэнь Праваабарончага Цэнтру "Вясна".**
**Выходзіць два разы на месяц на беларускай, ангельскай і рускай мовах.**
**Наклад 299 асобнікаў. Рэдактар Алесь БЯЛЯЦКІ.**
**Пры перадруку спасылка на бюлетэнь абавязковая.**

**Адрас рэдакцыі:**
**220013 Менск, а/с 49.**
**E-mail:viasna@spring96.org**
**www.spring96.org**

*У нумары скарыстаныя фотаздымкі з архіву Праваабарончага Цэнтру "Вясна"*